



# Рэгіянальная газета. Rh.by

Тэлетыдзень 27 каналаў

Выходзіць па пятніцах. Выдаецца з красавіка 1995 года. Выдавец ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета".

23 кастрычніка 2015 года №43 **(1069)**


## Блізкія алкаголікаў лечаць сваю хваробу ў групе падтрымкі

старонка 21

## Як пазбегнуць стрэсу падчас рамонту і падабраць колер пакояў пад свой характар

старонка 5

## Якую гісторыю хаваюць старыя каталіцкія могілкі ў Вілейцы

старонка 2

## Вясковыя творцы цікавейшыя за тусоўшчыкаў сталічнай багемы

старонка 6

# У Маладзечне ахвярамі педафіла сталі 9-гадовыя дзеці

старонка 20

Фота timkanebooks.files.wordpress.com.

● ДА 250-ГОДДЗЯ АГІНСКАГА

## Прайшла Міжнародная канферэнцыя па Агінскім

МАЛАДЗЕЧНА

**Чатыры невядомыя раней лісты Міхала Клеафаса Агінскага паказаў у Маладзечне Пётр Краўчанка 21 кастрычніка.**

Але толькі з-за кафедры. Пабачыць іх здаля змаглі ўдзельнікі Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, прысвечанай культурнай спадчыне роду Агінскіх і яе сучасным значэнні, што прайшла ў Маладзечне 21-22 кастрычніка.

Прэзентацыя лістоў, якія дыпламат і збіральнік культурных каштоўнасцяў Пётр Краўчанка толькі паказаў прысутным, адбудзецца 28 кастрычніка ў Мінску пры ўдзеле пасла Польшчы ў Беларусі.

– Я ж выконваю джэнтльменскае пагадненне не раскрываць змест лістоў да гэтай даты, – патлумачыў наш зямляк першы міністр замежных спраў сучаснай Беларусі.

Хаця некаторую таямніцу Пётр Краўчанка прыадчыніў. Лісты закранаюць перыяд ад 1790 да 1804 года. У першым з іх ідзе гаворка пра маёмасныя справы.

На канферэнцыі ў Маладзечне, што доўжылася два дні, прысутнічалі прадстаўнікі Беларусі, Літвы, Польшчы, Расіі і Украіны. Арганізатарамі выступілі Мінкульт Беларусі, Белдзяржуніверсітэт культуры і мастацтваў, Маладзечанскі музычны каледж імя Агінскага, дабрачынны фонд "Спадчына Міхала Клеафаса Агінскага".

На адкрыцці канферэнцыі прысутнічаў пасол Літвы у Беларусі **Эдвалдас Ігнатавічус**.

У межах канферэнцыі прайшлі пленарнае пасяджэнне, дзе сярод іншых выступілі прафесар **Адам Мальдзіс**, дырэктар музея гісторыі і культуры Агінскіх у з Рэтавы (Rietavas, Літва), выдавец **Ліліяна Анцух**, педагог і музычны дзеяч **Віктар Скорабагатаў**, а таксама пасяджэнні секцый. Другі дзень быў прысвечаны краязнаўчай экспедыцыі па гістарычных мясцінах Маладзечаншчыны і Смаргоншчыны, звязаных з імем Агінскага.

**Мікола ГАЙДУК.**

**У наступным нумары нашай газеты мы плануем больш падрабязна расказаць пра міжнароднае гучанне імя Міхала Клеафаса Агінскага, 250-годдзе якога адзначаецца сёлета.**

● У ДАРОЗЕ

## Большасць удзельнікаў тутэйшага квэсту ў Смаргоні былі з Мінска

СМАРГОНЬ

**У ім удзельнічалі восем камандаў.**

Са Смаргоні была адна. У параўнанні з вілейскім квэстам, які адбыўся ў верасні, большасць удзельнікаў аддалі перавагу шпацыру, чым яздзе на роварах.

Вялікая ўвага пры распрацоўцы заданняў была скіраваная на гістарычныя падзеі. Узгадалі былыя назвы вуліц, мядзведжую акадэмію, якая існавала ў горадзе. Успомнілі і першых уладальнікаў Смаргоні – **Зяновічаў**.

Упершыню быў уведзены элемент анімацыі, на адным з заданняў стаяў вікінг, які задаваў тры пытанні пра Смаргонь. Камандзе са Смаргоні найбольш спадабалася тое заданне.

У гэты раз было шмат валанцёраў, якія падтрымалі праект. Сярод іх **Настасся Грыневіч**, якая рабіла здымкі ўдзельнікаў квэсту, **Дзяніс Краўчонак**, які забяспечыў анімацыю у квэсце, **Алеся Дамброўская**, якая дапамагала ў рэгістрацыі ўдзельнікаў.

Дзякуй Смаргонскаму гісторыка-краязнаўчаму музею за пляцоўкі для правядзення квэсту. І персанальна галоўнаму захавальніку фондаў музея **Паўлу Картавіку**, які кансультаваў па пытаннях гістарычнага мінулага Смаргоні.

Адзін з удзельнікаў паведаміў, што часта праездам быў у Смаргоні, а пашпацыраваць, падрабязна разгледзець горад не атрымлівалася.

Напрыканцы зімы сумесна з суполкай "Адрыў", якая ўжо на працягу 11 год арганізоўвае гарадскія гульні па Беларусі і гарадах блізкага замежжа, плануем правесці агульную гульню.

Для тых, хто не трапіў на тутэйшыя квэсты падчас іх правядзення, але хацеў гэта зрабіць, будзе магчымасць разгадаць заданні на сайце rh.by. Гэта праект турыстычных онлайн-квэстаў для актыўнага і інтэлектуальнага адпачынку.

**Воля ТРУБАЧ, Маладзечна.**

● АКЦЫІ

# Прыбралі старыя каталіцкія могілкі

ВІЛЕЙКА

**Чаму валанцёры добраўпарадкавалі менавіта гэтыя могілкі ў Вілейцы, што называюць "Гарадзішчам", і якую гісторыю яны хаваюць?**




Фота Настассі РОЎДЫ.

**Удзельнікі дабрачыннай акцыі па добраўпарадкаванні могілак у Вілейцы. Удзельнічалі ў акцыі старшы навуковы супрацоўнік Вілейскага краязнаўчага музея Вольга Коласава, дырэктар музея Сяргей Ганчар (справа ад яе), сябры суполкі Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры Дзяніс Канецкі (у першым шэразе злева), Павел Хаванскі (у другім шэразе справа), Дзмітры Хаценчык (другі шэраг, у цэнтры), яшчэ некалькі мясцовых жыхароў.**

Дабрачынную акцыю па добраўпарадкаванні культавага месца "РГ" зладзіла разам з вілейскай суполкай Таварыства аховы помнікаў гісторыі і культуры ў мінулую суботу.

За могілкамі ўжо даўно ніхто асабліва не даглядае, і яны паступова зарастаюць. Ля рэдкіх помнікаў можна ўбачыць свежыя кветкі, што пакідаюць нашчадкі тут пахаваных. Многія з помнікаў зараслі мохам.

Вакол магільнага склепа Любанскіх так разраслося кустоўе, што склепа было папросту нябачна. З яго і пачалі добраўпарадкаванне.

Мясцовыя жыхары ўзгадваюць, што раней на магільным склепе месціліся скульптуры і гранітная дошка з інфармацыяй пра Любанскіх. Цяпер застаўся толькі паўразбураны фамільны склеп. Пакуль няма нават дошкі, дзе было б напісана, хто тут пахаваны.

– Меркаваў, што акцыя будзе больш шматлюднай, – кажа арганізатар акцыі **Дзяніс Канецкі**. – Гэтыя старыя і ўнікальныя могілкі недалёка ад горада, сюды проста дабрацца. Тут пахаваныя знакамітыя людзі Вілейшчыны.

Да прыкладу, Любанскія, што валодалі маёнткамі Любань і Лошыца. Цяпер у Лошыцы адкрыўся музей, які прысвечаны ім. Таксама тут пахаваныя Сулістроўскія, што валодалі Касутой і Куранцом. Ёсць магіла фундатара касцёла, які пазней, пасля паўстання 1863 года, перабудавалі ў царкву.

– Тут можна ўбачыць досыць унікальныя помнікі, прыгожыя, – працягвае Дзяніс. – У бліжэйшы час мы плануем сфатаграфаваць і расчытаць надпісы на надмагільных плітах.

### Споведзь жанчыны, што памятае могілкі з дзяцінства

– Вось тут была капліца, у два паверхі, драўляная, – паказвае вілейчанка **Галіна Савіцкая** на невялікі ўзгорак. – Сюды прыходзілі бабулі, а часам і дзядулі, і маліліся. А ў гэты час мы, 12-15-гадовыя дзеці, прыбіралі капліцу, лазілі на другі паверх, падмяталі, выцiралі. Прыбяром, нарвём кветак, паставім букеты. Сыдзем, а за намі і бабулі пойдуць.

Аднойчы ўбачылі тут велізарнае вогнішча. Бягом сюды. Гарэла капліца. Прыехала пажарная, але што? Тады ж, напрыканцы 50-х гадоў, калі гэта здарылася, верылі і не верылі. Таму пажарнікі, жартуючы, пачалі неяк тушыць. Але толку было мала.

**Добра, што адна з нас, Галя, пачула спевы і пабегла адкрываць капліцу. Забегла, крычыць: "Гарым! Бяжыце хутчэй!"**

Усе выбеглі і ў разгубленасці: хто зрабіў і навошта. Потым высветлілася, што гэта адзін з мясцовых зачыніў людзей у капліцы і падпаліў.

Мы прыходзілі сюды, бо тут было прыгожа, шмат дрэў, як у парку. Мы тут атрымлівалі нейкае натхненне. Нам хацелася прыходзіць, нас цягнула сюды. Арэхаў тут шмат расло, мы іх елі. А як капліца згарэла, то і могілкі закінулі.

Цяпер усё зарасло, добра, што ёсць людзі, якія прыходзяць, дапамагаюць, не кожны год, але прыходзяць.

**Настасся РОЎДА.**



Фота забяспечана Дзянісам КАНЕЦКІМ.

**Фота капліцы, зробленае Балзункевічам у 1920-х гадах.**

### Як выглядала капліца: гістарычныя крыніцы

У архіўных матэрыялах, што збірае Дзяніс Канецкі, згадваецца наступнае:

"Філіяльны касцёл на могілках у фальварку Гарадзішча куранецкай парафіі вядомы ад 1683 года. У канцы 18 стагоддзя ўяўляў сабой збудаваны з бруса, на бутавым падмурку, з прыбудаваным бабінцам, храм, які завяршаўся вежай са звонам – сігнатуркай.

Мяркуючы па здымку мяжы 19-20 стагоддзяў, касцёл быў перабудаваны ў першай палове 19-га пад уплывам класіцызму. Пра гэта красамоўна сведчыць уваходны фасад святыні, вырашаны ў выглядзе чатырохкалоннага порціка з вальмам, характэрным яшчэ для барочнай архітэктуры. У гэты час філія ў Гарадзішчы – зальны храм з пяціграннай апсідай і сакрысціяй злева. Перакрываўся гонтавым дахам з чацверыковай вежай над уваходным фасадам. У яго верхняй частцы быў уладкаваны праём для прадвяшчальнага звона. Інтэр'ер касцёла ўпрыгожвалі тры алтары: на галоўным, двух'ярусным, быў вобраз Маці Божай з немаўлём і вобраз святой Ежы зверху.

У другой палове 19 стагоддзя, калі Куранец не меў парафіяльнага касцёла, Гарадзішчанская капліца прыпісвалася да прыходу ў Касцяневічах. Ад пачатку 20-га храм увайшоў у склад Вілейскай парафіі. Сёння Гарадзішча ўжо ўвайшло ў гарадскую рысу Вілейкі, могілкі знаходзяцца на паўночным выездзе з горада. Аднак ад капліцы захаваліся толькі рэшткі падмуркаў. Ператураная ў руіны і фамільная пахавальня Любанскіх, пабудаваная тут жа, на могілках, у пачатку 20 стагоддзя".

● ПА КРАІНАХ І КАНТЫНЕНТАХ З ЛЫЖКАЙ

# Французы ядуць ротам, вачамі і носам

МАЛАДЗЕЧНА

**Рэцэптам сваёй любімай пераборскай салаты падзялілася з чытачамі бібліятэкі "Верасок" першая дарадчыца пасольства Францыі Эльза Піньёль.**

Сустрэча з ёй адбылася 20 кастрычніка.

Спадарыня Эльза прызналася, што ў Маладзечне яна ўжо ў чацверты раз, а калі ёй прапанавалі апрануць фартух, усклікнула:

– Ну, цяпер зусім як дома!

Пераборская салата, якую вырашыла прыгатаваць Эльза Піньёль, называецца так, таму што гэта традыцыйны рэцэпт раёна Перабор.

Пакуль спадарыня Эльза наразала вараную бульбу, памідоры чэры і пятрушку, яна расказала ўсім прысутным, што французская кухня падобная на беларускую. У ёй таксама выкарыстоўваецца шмат гароднiны.

А вось маянэз французы ядуць значна менш, чым беларусы, а салату запраўляюць вінегрэтам. Вінегрэт перакладаецца з французскай мовы як кіслае віно, а па сутнасці – гэта соус, у склад якога ўваходзяць бальзамічны воцат і аліўкавы алей.

– Хаця апошнім часам, – удакладняе Эльза Піньёль, – у французскіх рэстаранах соус падаюць асобна ад стравы. Мала каму патрэбныя лішнія калорыі.

Калі салата была гатовая і ўсе маглі пачаставацца ёй, спадарыня Эльза адказвала на пытанні:

**– Якія стравы беларускай кухні вы любіце больш за ўсё?**

– Не магу ўвагай абмінуць дранікі, асабліва зімой. Летам яны моцна цэнуць на страўнік.

**– Існуе стэрэатып, што французская кухня – жабіны лапкі.**

– Я ні разу іх не ела. Наколькі я ведаю, цяпер мала ў якіх установах іх можна пакаштаваць, гэта ежа для гурманаў.

**– Што з беларускіх страў прыхапіць да сяброў у Францыю?**

– Бярыце з сабой дамашняе варэнне з ягад, французам яно вельмі даспадобы.

**– А што прывезці дадому?**

– Вядома, французскае віно, сыр, пячэнне. У кожным раёне Францыі яно сваё, адметнае.

**– Ці спрабавалі вы беларускія круасаны, ці смачнейшыя яны за французскія?**

– Я, шчыра кажучы, і французскія круасаны не ем і не люблю, а беларускіх нават і не каштавала.

**– Чаго вам не хапае, калі вы бераецся гатаваць французскія стравы ў Беларусі?**

– Сапраўднага сыру. Мой любімы сыр – Ракфор, а тут такога не купіш. Яшчэ французы вельмі любяць сыр камамбер. І няпраўда, што мы закрываем нос, калі яго ядзім. Французы ядуць не толькі ротам, але і носам, і вачамі.

**Наталля ТУР.**



Фота Наталлі ТУР.

**Эльза Піньёль з прыгатаванай салатай. Праз некалькі хвілін ад яе застанецца толькі ўспамін.**

## Парады ад спадарыні Эльзы Піньёль, каб зрабіць салату больш смачнай

– Сакрэт сапраўднай пераборскай салаты ў тым, што ён спалучае ў сабе халодную гародніну і цёплае мяса. У арыгінальным рэцэпце салаты выкарыстоўваецца тушаная качка.

– Яйкі ў салату дадаюцца ў самым канцы, каб яны не раскрышыліся.

– Калі дадаць у салату пятрушку і прыбраць яе на дзве гадзіны ў халадзільнік, пятрушка аддасць салаце непаўторны водар.

– Каб памідоры далі сок, іх трэба крышачку падсаліць.

### Рэцэпт пераборскай салаты

*3 маленькія вараныя бульбіны*
*Памідоры чэры*
*Марынаваныя агуркі – карнішоны*
*Два свежыя агуркі*
*Бляшанка кукурузы*
*100 грамаў варанай вяндліны*
*3 вараныя яйка.*
***Для соусу:***
*Маянэз*
*Аліўкавы алей*
*Воцат бальзамічны*
*Соль*
*Перац*
*Пятрушка*

Інфаграфіка Галіны СІНІЦЫ.

ЛІЧБА НУМАРА

**Кожны пяты беларус**

**пасля атрымання заробку амаль адразу пачынае чакаць наступнага**

**39%** лічаць дні да заробку за тыдзень да яго,
**31%** - за 2 тыдні,
**5%** апытаных плануюць расходы, падобныя сітуацыі з імі не здараюцца,
**3%** не маюць праблемаў у грашах.

Паводле РАБОТА.TUT.BY падчас апытання 1130 чалавек

| КУРСЫ ВАЛЮТ НБ РБ | 15.10 | 22.10 |
|---|---|---|
| | руб. | руб. |
| Долар ЗША | 17 343,00 | **17 252,00** |
| Еўра | 19 793,00 | **19 597,00** |
| Злоты | 4 634,59 | **4 624,32** |
| Расійскі рубель | 274,76 | **275,25** |
| Грыўня | 784,66 | **781,58** |
| **Курсы ў "Банку БелВЭБ" у Маладзечне 21.10** | | |
| Еўра | 19600/19850 | **19450/19650** |
| Долар ЗША | 17220/17450 | **17200/17350** |

ЦЭНЫ НА РЫНКУ (Маладзечна)

| ПРАДУКТЫ | 14.10 | 21.10 |
|---|---|---|
| | Цана руб. | |
| Кілбаса "Мядовая", 1 кг | 139 900 | **139 900** |
| Сасіскі, 1 кг | 53 800 | **53 800** |
| Кураня-бройлер, 1 кг | 26 800 | **26 800** |
| Свініна (выразка), 1 кг | 80 000 | **75 000** |
| Мінтай свежамарожаны, 1 кг | 38 900 | **38 900** |
| Селядзец, 1 кг | 49 500 | **52 000** |
| Скумбрыя х/в, 1 кг | 121 000 | **121 000** |
| Рыс, 0,9 кг | 13 500 | **13 500** |
| Грэчка, 0,8 кг | 16 500 | **16 500** |
| Яйкі курыныя, 1 дзясятак | 13 000 | **13 000** |
| Алей "Дзіўны", 1 л | 23 500 | **23 500** |
| Маянэз, 200 г | 4 500 | **4 500** |
| Соус "Мінскі", 0,5 л | 14 500 | **14 500** |
| Кава "Nescafe", 100 г | 39 500 | **39 500** |
| Шпроты, бляшанка 160 г | 13 000 | **13 000** |
| Цыбуля рэпчатая, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Часнок, 1 кг | 47 900 | **47 900** |
| Капуста, 1 кг | 3 500 | **3 500** |
| Морква, 1 кг | 5 900 | **5 900** |
| Баклажаны, 1 кг | 14 900 | **13 900** |
| Лімоны, 1 кг | 37 900 | **29 900** |
| Апельсіны, 1 кг | 27 900 | **29 500** |
| Мандарыны, 1 кг | 29 900 | **28 500** |
| Грэйпфруты, 1 кг | 29 900 | **29 500** |
| Ківі, 1 кг | 29 900 | **29 500** |
| Нектарыны, 1 кг | 29 900 | **29 900** |
| Буракі, 1 кг | 6 000 | **5 900** |
| Памідоры, 1 кг | 14 500 | **16 900** |
| Агуркі, 1 кг | 18 900 | **19 900** |
| Перац, 1 кг | 14 500 | **13 500** |
| Вінаград, 1 кг | 24 900 | **24 900** |
| Бананы, 1 кг | 17 900 | **19 900** |
| Кавун, 1 кг | 4 000 | **6 000** |
| Дыня ("тарпеда"), 1кг | 13 000 | **-** |
| Хурма, 1 кг | 45 000 | **38 500** |
| Памела, 1 кг | 39 500 | **34 900** |
| Яблыкі, 1 кг | 9 900 | **9 900** |
| Грушы, 1 кг (Дзюшэс) | 22 900 | **22 500** |
| **СЯЛЯНСКІЯ ПРАДУКТЫ** | | |
| Малако, 1,5 л | 18 000 | **18 000** |
| Масла, 1 кг | 100 000 | **10 000** |
| Тварог, 1 кг | 55 000 | **55 000** |
| Бульба, 1 кг | 2 500 | **2 500** |
| Сала, 1 кг | 100 000 | **100 000** |
| Яйкі, 1 дзясятак | 25 000 | **25 000** |
| Мёд, 0,5 л | 60 000 | **60 000** |

● ЗДАРОЎЕ

# Грыбоў з перавышэннем радыенуклідаў назбіралі на Вілейшчыне

ВІЛЕЙКА

**Свежыя грыбы, курачкі, прынеслі на даследаванне ў лабараторыю Вілейскага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі 8 кастрычніка.**

Утрыманне цэзію-137 у іх перавысіла норму больш чым у шэсць разоў. Мужчына расказаў, што збіраў курачкі ў лесе каля вёсак Талуць і Кузьмічы Любанскага сельсавета.

Ад пачатку сезона ў лабараторыі праверылі дзевяць проб грыбоў і 10 проб ягад. У адной пробе чарніц знайшлі перавышэнне ўтрымання радыенуклідаў. Алe яны былі не з вілейскіх лясоў: прывезлі ягады з Магілёўскай вобласці.

– Людзі сталі менш прыносіць дароў лесу на праверку. Відаць, супакоіліся, – расказвае фельчар-лабарант лабараторнага аддзела Вілейскага РЦГЭ **Людміла Кулеш**. – А бывалі гады, што прыносілі шмат. Тады і па 20 выпадкаў перавышэння ўтрымання радыенуклідаў фіксавалі. І часта гэта былі менавіта курачкі.

Калі не прынеслі свежыя грыбы, а цяпер засумняваліся у іх якасці, то можна прынесці на даследаванні і салёныя, сушаныя, вараныя, марынаваныя. Лепш даставіць у лабараторыю пробу аб'ёмам не менш за літр. Даследаваныя грыбы вернуць.

Радыеметрычны кантроль грыбоў і ягад можна правесці ў лабараторыі РЦГЭ па адрасе: вуліца ***Пiянерская, 45***, тэлефон **8-01771- 5-57-10**. Даследуюць іх бясплатна.

Сабраныя на Вілейшчыне ягады траплялі на праверку і ў іншыя лабараторыі рэгіёна. У жніўні з Маладзечанскага занальнага цэнтра гігіены і эпідэміялогіі паведамлялі, што перавышэнне радыенуклідаў ў 1,5 раза знайшлі ў дзвюх пробах чарніц з вёсак Талуць і Іжа на Вілейшчыне.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ДАІ ПАВЕДАМЛЯЕ

## Каб не збіць пешахода, кіроўца прытармазіў, але сам трапіў у аварыю

МАЛАДЗЕЧНА

**18 кастрычніка каля паловы другой дня адбылося здарэнне па Вялікім Гасцінцы.**

33-гадовы кіроўца "Міцубісі" ехаў у накірунку Мінска. У раёне гарадскога парку, на павароце з Віленскай, ён убачыў, што на сярэдзіне праезнай часткі, на двайной суцэльнай, стаіць чалавек.

Каб не наехаць на яго, кіроўца пачаў прытармажваць. Ззаду ехаў БМВ, за рулём якога быў 24-гадовы кіроўца. Ён не паспеў своечасова націснуць на тормаз і ўехаў у "Міцубісі". Пешаход знік з месца здарэння. Кіроўца БМВ прыцягнуты да адказнасці.

Пра здарэнне распавёў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош.**

**Аддзел інфармацыі.**

## Праз казулю, якая выбегла на дарогу, перакулілася машына

МАЛАДЗЕЧНА

**14 кастрычніка а палове пятай 57-гадовая жыхарка Лебедзева ехала па дарозе Маладзечна-Валожын у накірунку Маладзечна.**

Побач з вёскай Барок Маладзечанскага раёна на дарогу з поля выскачыла казуля. Каб пазбегнуць сутыкнення, жанчына ўзяла ўправа, з'ехала на ўзбочыну. Там машына перакулілася. Жанчына не пацярпела, казуля збегла.

Пра здарэнне расказаў дзяржаўтаінспектар Маладзечанскай ДАІ **Сяргей Бартош.**

**Аддзел інфармацыі.**

СЛЕДЧЫ КАМІТЭТ

## Хлопец выпіў і без правоў сеў за руль трактара

ВАЛОЖЫН

**У такое ДТЗ трапіў 21-гадовы малады чалавек.**

Працуе маладзён у адным з калгасаў на Валожыншчыне.

Як распавяла следчы Валожынскага райаддзела Следчага камітэта **Дар'я Мікуліч**, 3 кастрычніка пасля працы малады чалавек захацеў выпіць. А выпіўшы – пракаціцца на трактары. Ісці далёка не трэба было: трактарыст, які працуе ў калгасе, пакінуў у гэтага маладзёна на ўчастку ля дома трактар.

Як заўважае следчы, дзверы ў трактара не зачыняліся, хто заўгодна мог сесці і паехаць.

Малады чалавек далёка не ад'ехаў: праз 100 метраў уехаў у дрэва.

Правоў кіроўцы хлопец не мае.

Дар'я Мікуліч звяртае ўвагу, што ў гэтым здарэнні відавочныя грубыя парушэнні з боку калгаса. Трактар знаходзіўся не на тэрыторыі калгаса, у яго не быў пройдзены тэхагляд.

**Настасся РОЎДА.**



КРЫМІНАЛ

# 19-гадовага абвінавачваюць у арганізацыі наркабізнесу

## Міліцыя вылоўлівала Чорнага Ката паўтара года

МАЛАДЗЕЧНА

**У рэшце рэшт яго злавілі, а інтэрнэт-краму па продажы наркотыкаў зачынілі. Цяпер справа разглядаецца ў судзе. Калі абвінавачанага прызнаюць вінаватым, яму пагражае больш за дзесяць гадоў зняволення.**

Па версіі следства, наркадылер зарэгістраваўся ў інтэрнэце пад нікам Чорны Кот.

Сярод наркаманаў інфармацыя пра тое, дзе можна дастаць наркотык, распаўсюджваецца імгненна. Таму ў прадпрымальнага маладзёна хутка з'явілася шмат кліентаў, распавёў "РГ" начальнік аддзела па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі **Дзмітры Сухоцкі**.

– Асноўнае, на чым трымаўся гэты бізнес – ананімнасць, – распавядае Дзмітры Сухоцкі. – Мы мелі нік, але хто гэта? Правяралі яго ад 2013 года, сёлета ў красавіку затрымалі.

### Наняў "мінёраў"

Следчы мяркуе, што, хутчэй за ўсё, маладзечанскія падлеткі дасталі наркотыкі менавіта праз яго. Дылер наняў на працу "мінёраў", якія раскладвалі па горадзе так званыя "закладкі", пакецікі з наркотыкам. Грошы ішлі Кату на электронны кашалёк. Калі яму прыходзіла інфармацыя пра новыя грашовыя паступленні, ён скідваў праз інтэрнэт "мінёру" адрас "закладкі".

– "Мінёраў" затрымаць складана, яны не сустракаюцца адзін з адным. Перадаюць найменшаму залог, а потым атрымліваюць заробак у выглядзе "закладкі". Яны не ведаюць свайго "шэфа", ён не ведае "закладчыкаў", – тлумачыць Дзмітры Сухоцкі.

Пад абвінавачанага маладзёна пачалі "капаць", калі паступіла інфармацыя, што, хутчэй за ўсё, менавіта ён – Кот. Следчы кажа, што калі перадавалі матэрыялы ў суд, ужо былі відэазапісы, на якіх бачна, як менавіта гэты хлопец здымае грошы з карткі Чорнага Ката.

Зарабляў ён шмат. Мог атрымаць некалькі тысяч долараў цягам месяца. Але пры затрыманні вялікіх грошай у яго не было.

– Куды спусціў? Кажа, на прыгожае жыццё: дарагія тэлефоны, падарункі дзяўчатам. Гэты хлопец няпросты, дзейнічаў хітра. Тры месяцы працаваў, два – адпачываў, – заўважае Дзмітры Сухоцкі.

Калі абвінавачанага затрымалі, ён ужо жыў у Мінску. Вучыўся завочна, працаваў на заводзе.

Следчы кажа, што сам хлопец наркотыкі не ўжываў. Аднойчы паспрабаваў, ледзьве не аддаў канцы, і выі больш не эксперыментаваць.

Калі б следчыя даказалі, што абвінавачаны ведаў, што ў яго набываюць наркотыкі непаўнагадовыя, яму б пагражала да 25 гадоў пазбаўлення волі. Аднак, хутчэй за ўсё, хлопец не ведаў, каму прадаваў. Тым не менш, тэрмін яму пагражае вялікі. Цяпер справа на стадыі завяршэння разгляду ў судзе.

**Настасся РОЎДА.**

**Фота pngimg.com.**

СЛУЖБА 101

## Удзень згарэў жылы дом

ВІЛЕЙКА

Адбылося гэта 19 кастрычніка ў вёсцы Капусціна Ільянскага сельсавета. Пасля апоўдня вілейскім выратавальнікам аб загаранні жылога дома паведамілі суседзі.

Па прыбыцці першага аддзялення драўляны дом гарэў адкрытым полымем.

Людзі не пацярпелі: гаспадароў дома якраз не было. У выніку агонь знішчыў дах, перакрыцці, дом выгараў усярэдзіне.

Прычына пажару ўстанаўліваецца, расказаў старшы інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях **Дзяніс Гаўрышчук**. Вядома, што загаранне адбылося з сярэдзіны. У гэты дзень і папярэдні печ у доме не палілі.

## Правяраюць домаўладанні

Ад 20 да 29 кастрычніка ў вобласці праходзіць дэкаднік. На Вілейшчыне актыўна правяраюць домаўладанні на тое, як выконваюць правілы пажарнай бяспекі.

Старшы інспектар інспекцыі нагляду і прафілактыкі райаддзела па надзвычайных сітуацыях Дзяніс Гаўрышчук рэкамендуе, каб былі пабеленыя і атынкаваныя дымаходы ў межах даху. Перад топачным аддзяленнем печы павінны быць металічны ліст (50 х 70 сантыметраў). Сушыць і складаць што-небудзь на аціплялянай печы забараняецца.

**Аддзел інфармацыі.**

## Пройдзе акцыя "За бяспеку разам"

МАЛАДЗЕЧНА

Ад 20 кастрычніка да 20 лістапада ў Маладзечанскім раёне праходзіць пажарна-прафілактычная акцыя "За бяспеку разам".

Падчас яе супрацоўнікі аддзела па надзвычайных здарэннях дапамогуць устанавіць аўтаномныя пажарныя апавяшчальнікі, з рамонтам печаў і электраправодкі. Асаблівую ўвагу нададуць сем'ям, якія знаходзяцца ў сацыяльна-небяспечным становішчы, дзе дзеці застаюцца без нагляду.

Ветэранам Вялікай Айчыннай вайны, старым людзям, якія жывуць адны, інвалідам і шматдзетным сем'ям дапамогуць прыбраць у дварах.

**Кацярына КРАЎЧОНАК,**
**спецыяліст групы прапаганды і навучання Маладзечанскага ГРАНС.**

# Хочаце столь, якой няма ў нікога, – вам у “Саф’ен”

***Кампаніі “Саф’ен” два гады, аднак з’явілася яна значна раней. Спачатку Аляксей Карташэвіч вырашыў адкрыць сваю справу, стаў прадпрымальнікам. Ён займаўся тым, што нацягваў столі. Калі заказаў стала больш, вырасла і колькасць супрацоўнікаў. Так паступова з індывідуальнага прадпрымальніка нарадзілася кампанія. З’явіліся і новыя прапановы для кліентаў.***

***Калі палічыць агулам, то атрымаецца, што Аляксей шосты год займаецца такой справай. Гэты час спатрэбіўся не толькі, каб заваяваць аўтарытэт сярод кліентаў, а і для таго, каб вывучыць густы, патрабаванні кліентаў, пашырыць кругагляд у гэтай сферы, даведацца пра новыя тэндэнцыі.***




**У “Саф’ен” вам прапануюць 56 узораў столі з выразанымі малюнкамі. Таксама вы можаце скампанаваць і колеры.**

## “Саф’ен” уводзіць навінкі адна з першых

*Калі вы шукаеце незвычайную “вопратку” для сваёй столі, то не раздумваючы звяртайцеся ў “Саф’ен”. Кампанія нага ў нагу ідзе за новымі тэндэнцыямі, і ў яе гэта атрымліваецца.*

*Яна стала адной з першых у Маладзечне па продажы разных (резных) столяў. Для таго, каб больш падрабязна пазнаёміцца з новаўвядзеннем, спецыялісты вучыліся на майстар-класах.*

*– Ва Украіне і Расіі разныя столі з’явіліся год таму, – адзначае заснавальнік кампаніі “Саф’ен”* ***Аляксей Карташэвіч****. – У нашай краіне пра іх даведаліся толькі цяпер. Нават у Мінск гэтая навінка прыйшла ў ліпені. І то, займаюцца гэтым нешматлікія кампаніі. Таму маладзечанцы і жыхары рэгіёна адны з першых у краіне могуць зрабіць сабе навамодную столь.*

*Разныя столі – гэта навейшая тэхналогія, якая дазваляе ствараць на нацяжных палотнах мастацкія выразы і фігуры любога памеру і велічыні пры дапамозе спецыяльнага абсталявання. Асаблівасці тэхналогіі ўстаноўкі столяў Apply (Эплай) заключаюцца ў камбінаванні цэльных палотнаў з мастацкімі выразамі, якія могуць размяшчацца разам і на розных узроўнях. Гэта дазваляе стварыць эфект аб’ёму на столі.*

**Асноўныя перавагі разных столяў Apply:**

*1. Выразы могуць быць розных памераў і формаў.*

*2. Вы можаце скамбінаваць некалькі колераў і формаў.*

*3. Адсутнічае надзіманне і заліпанне палатна.*

*4. Наяўнасць спецыяльнага каталога, у якім ёсць 56 узораў і арнаментаў разных столяў у стылі Apply. Выбраць зможа нават самы патрабавальны кліент.*

*5. Разная столь мае тыя ж характарыстыкі, што і нацяжная, таму кампанія “Саф’ен” дае гарантыю 25 гадоў не толькі на палатно, але і на мантаж.*

## Вывучаць планеты і нават кіраваць імі можна і на ложку

*Не менш моднымі цяпер з’яўляюцца “лунаючыя столі” (парящие потолки). Адчуванне таго, што столь нібы вісіць у паветры, ствараюць дыёдныя стужкі. Яны могуць быць белымі альбо каляровымі, могуць размяшчацца па перыметры столі альбо на самім матэрыяле. Такая столь не толькі зробіць ваш інтэр’ер непаўторным, але дзякуючы дыёдным стужкам зэканоміць электраэнергію. Яна ідэальна падыдзе для доўгіх выцягнутых калідораў альбо для раздзялення кухні і гасцінай пры сумешчаным асвятленні.*

*Магчыма, вы хочаце, каб інтэр’ер у вашай спальні быў заўсёды рамантычным. Для вас падыдзе варыянт зорнага неба. Над вашай галавой замігцяць зоркі альбо са свайго ложка вы можаце ўбачыць планеты. Пры гэтым вялікім плюсам з’яўляецца тое, што яркасць можна рэгуляваць. Гэта створыць уражанне, што зоркі альбо планеты можна дастаць рукой альбо яны свецяць удалечыні.*

*Змяніўся падыход і да ўстаноўкі двухузроўневых столяў. Калі раней на замер, устаноўку ішлі тры-чатыры дні, то цяпер спецыялісты могуць управіцца за адзін. Інавацыйнае рашэнне падчас устаноўкі двухузроўневых столяў – гатовыя канструкцыі, шырокі выбар формаў, якія дазваляюць задаволіць любы густ. Раім выкарыстоўваць такі варыянт столі, калі вы хочаце адасобіць альбо вылучыць пэўны элемент пакоя, стварыць ілюзію глыбіні і зрокава расшырыць прастору.*

## Не дайце столі задушыць сябе

*А вось глянцавую нацяжную столь спецыяліст не раіць рабіць у пакоях, дзе вы адпачываеце.*

*– Цяпер у большасці спальняў ёсць шафы з люстэркамі, – расказвае Аляксей Карташэвіч. – Калі і столь зрабіць глянцавую, то гэта будзе псіхалагічна прыціскаць чалавека.*

*Кампанія “Саф’ен” гарантуе сваім кліентам не толькі якасную работу, але і чысціню. Спецыялісты падчас працы выкарыстоўваюць пыласос, перфаратар з мяшочкам для збірання пылу.*

*Таксама кампанія прапануе кліентам багаты выбар люстраў, свяцільняў, карнізаў, міжпакаёвых і ўваходных дзвярэй.*

*“Саф’ен” – утульнасць з густам.*

***Больш інфармацыі на сайце***

***www.sofien.by.***

**ПГУП “Саф’ен”**
**УНП 591804594**

*На правах рэкламы.*

● ПСІХОЛАГ РАІЦЬ

# Як пазбегнуць стрэсу падчас рамонту і падабраць колер пакояў пад свой характар

**Рамонт – гэта заўсёды невялікі стрэс. Ён звязаны са змяненнем звыклага распарадку дня, адпачынку пасля працы.**

Усе члены сям’і аказваюцца ў новых для сябе ўзаемаадносінах, асабліва, калі ўпершыню робяць рамонт разам. Гэта можа прывесці да спрэчак і крыўдаў.

## Парады падчас рамонту

1. Ацаніце свае сілы і блізкіх. Некаторыя людзі не задумваюцца, наколькі можа зацягнуцца рамонт. Калі час разлічаны няправільна, накопліваюцца адмоўныя эмоцыі і злосць.

2. Ацаніце бюджэт. Расходы ў час рамонту павялічваюцца ў два разы, таму суразмерце жаданні і фінансавыя магчымасці.

3. Вызначыце жаданні, мары і фантазіі.

4. Размаўляйце пра рамонт. У кожнага мары і жаданні розныя, таму варта пра іх сказаць. Калі вы саступаеце і адмаўляецеся ад свайго жадання, магчыма, пасля рамонту будзеце адчуваць сябе некамфортна.

5. Звярніце ўвагу на колеры, яны ўплываюць на псіхафізічны стан. Часта чалавек інтуітыўна выбірае тыя колеры, якія імпануюць яго характару, схільнасцям.

**Таццяна ЖДАНАВА,**
**псіхолаг.**

## Колеры ў псіхалогіі

**Чырвоны колер** дапамагае справіцца з апатыяй, дэпрэсіяй, страхам, няўпэўненасцю. У інтэр’еры дае зарад бадзёрасці і паднімае настрой. Выдатна падыдзе для прасторнай гасцінай, асабліва ў спалучэнні з залатым колерам.

Для спальні выкарыстоўвайце светлыя тоны, яны ствараюць атмасферу ўтульнасці і рэлаксацыі.

**Жоўты** дапамагае пазбавіцца ад негатыву, канцэнтруе ўвагу, падагравае прагу да ведаў. Аднак насычаны жоўты здольны раздражняць.

**Аранжавы** надзяляе зарадам бадзёрасці і энергіі, спрыяе інтэлектуальнай актыўнасці, дапамагае змагацца з апатыяй, сумным настроем. Але празмернае выкарыстанне можа прывесці да ляноты.

Зялёны дапамагае змагацца з грубасцю, злосцю, скаванасцю ў пачуццях, валодае нават снатворным эфектам.

**Блакітны** колер дае адчуванне прахалоды, лёгкасці і спакою. Карысны для людзей з павышанай узбуджальнасцю.

**Насычаны сіні** здольны нагнятаць пачуцці, яго не рэкамендуюць выкарыстоўваць у вялікіх пакоях. Пры разумным выкарыстанні сіняга можна пазбавіцца ад трывог, страхаў.

Натхненне, творчасць, улада і духоўнасць – гэта ўсё ў **фіялетавым**.

**Ружовы** колер сімвалізуе спакой і расслабленне, жаноцкасць, пяшчоту, лёгкасць. Добра падаўляе агрэсію. У такім інтэр’еры расслабляешся.

**Бэжавы** – асацыюецца са спакоем, прымірэннем, мяккасцю. Садзейнічае добраму адпачынку.

**Карычневы** дае адчуванне ўпэўненасці і надзейнасці, супакойвае, падтрымлівае надзею і жыццёвыя сілы.

**Белы** – колер неадназначны. З аднаго боку, ён дае адчуванне святла, спакою, чысціні, лёгкасці. З іншага, гэта адчуванне пустаты, адзіноты, самоты, расчаравання.

Колерам адзіноты, хваробы, дэпрэсіі, самоты называлі **шэры.** Але разам з тым, гэта колер упэўненасці ў лепшай будучыні, стабільнасці, гармоніі.

**Чорны** застаецца загадкай. Празмернае яго выкарыстанне дрэнна ўздзейнічае на нервовую сістэму, стварае адчуванне замкнутасці і недахопу паветра, але разам з тым дае адчуванне спакою і прахалоды. Ва ўмеранай колькасці садзейнічае канцэнтрацыі ўвагі на пераадоленні ўнутраных праблемаў і вырашэнні складаных задач.

Памятайце, што пакой вы можаце зрабіць спакойным, але аксэсуары падабраць яркія альбо наадварот.

ТЭАТР

## "Батлейка" адкрыла 25-ы тэатральны сезон

МАЛАДЗЕЧНА

У гэты дзень свята дарылі не толькі акцёры для дзяцей і іх бацькоў. Яны самі сталі віноўнікамі ўрачыстасці. Многіх работнікаў ўганараўвалі начальнік аддзела ідэалогіі **Аляксандр Рамановіч**, а таксама прадстаўніца Мінаблвыканкама.

У сваёй прамове Аляксандр Рамановіч адзначыў, што менавіта ў сценах тэатра фарміруецца духоўнасць маладога пакалення.

Ганаровай граматай ад галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Мінаблвыканкама ўзнагародзілі **Таццяну Чаеўскую**, **Мікалая Андрэева**, **Уладзіміра Уладыку**.

Аддзел ідэалогіі, культуры і па справах моладзі Маладзечанскага райвыканкама ўганараваў **Надзею Пацалуеву**, **Лідзію Бурак**, **Аляксандра Зінгана**, **Гелену Шчыглу**.

Маладзечанскі райвыканкам узнагародзіў **Святлану Тарайкоўскую**, **Таццяну Паўлючук**, **Зою Богдан**.

Для адкрыцця юбілейнага сезона тэатр абраў свой самы першы спектакль – беларускамоўную камедыю "Прывітанне для мартышкі".

Напрыканцы дзетак чакала традыцыйная вясёлая дыскатэка з віктарынай. Сезон толькі пачаўся, таму маленькія жыхары рэгіёна могуць трапіць на адначасова забаўляльную і развіццёвую імпрэзу, якую ладзіць мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка". "РГ" пастаянна друкуе рэпертуар установы, каб вы маглі абраць спектакль на свой густ.

Фотаздымкі з адкрыцця 25-а сезона глядзіце на сайце rh.by.

**Зоя ХРУЦКАЯ.**

ВЫСТАВЫ

## Пакажуць прыгажосць Вілейскага вадасховішча

ВІЛЕЙКА

У выставачнай зале імя Сілівановіча 24 кастрычніка а 11-й гадзіне адкрыецца фотавыстава **Аляксандра Батуры** "Уздоўж берагоў Вілейскага..."

Больш за 10 год Аляксандр захапляецца гэтымі мясцінамі. Любоў да вадасховішча і прыроды імкнецца выказаць не толькі ў фотаздымках, а і ў фотагісторыях.

Аляксандр Батура – фатограф-аматар, жыве ў Мінску. Пра гэта расказала навуковы супрацоўнік краязнаўчага музея **Надзея Аўдзей**.

**Алесь ВЫСОЦКІ.**

ВАНДРОЎКІ

# Вясковыя творцы цікавейшыя за тусоўшчыкаў сталічнай багемы

МЯДЗЕЛ

**У гэтым упэўніліся сябры пастаўскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы. Чарговую паездку мы зладзілі 17 верасня праз Брусы, Вузлу, Старынкі, Чарэмшыцы, Занарач, "Зубраня" ў Мядзельскім раёне.**

У Брусах агледзелі мемарыял на месцы спаленых фашыстамі мясцовых жыхароў і брацкую магілу рускіх салдат, якія загінулі ў 1916 годзе падчас Нарачанскай аперацыі Першай сусветнай вайны.

За вёскай у лесе, на месцы былога хутара, цяпер раскінуліся плантацыі лесагадавальніка. Мясцовы жыхар, якога мы там сустрэлі, аказаўся чалавекам кантактным і адкрытым. У размове ён распавёў пра тутэйшыя цікавосткі, адметныя мясціны і падзеі, прыгадаў некалькі гісторый ваеннага часу, якія адбыліся з яго роднымі. Як ён казаў, немцы прасілі дазвол узяць або купіць прадукты, расплачваліся за іх маркамі. Партызаны ж прыходзілі ноччу і забіралі тое, што хацелі. Быў выпадак, калі "лясныя мсціўцы" аднойчы зайшлі ў хлеў, са стрэльбы з глушыцелем застрэлілі пяць парсюкоў, рэквізавалі ў суседняга гаспадара каня з калёсамі і павезлі "здабычу" ў лес. А яшчэ неяк партызаны прыйшлі ў вёску і ў аднаго селяніна пачалі патрабаваць каня, але той пачаў гаварыць, што каня няма (яго схавалі). Тады "змагары" накінулі вяроўкі на рогі дзвюх кароў, што стаялі ў дварышчы, і павялі з сабой… Што ж, былі і такія партызаны.

Далейшы шлях ляжаў у вёску Лужы, якую ў час блакады спалілі фашысты. На яе папялішчы некаторы час дзейнічаў партызанскі аэрадром, на які з-за лініі фронту прылялі самалёты. Пра гэта сведчыць сціплы помнік і надпіс на ім.

### "Вузлянка" яшчэ жыве!

Наступны прыпынак быў у вёсцы Вузла. У 60-70-я гады гэта было бойкае паселішча, у якім віравала жыццё. Але праміналі залатыя часы. Школы ўжо няма, як няма і музея, царквы, млына, электрастанцыі ды і шмат чаго іншага. Рэзка скарацілася колькасць жыхароў. Добра, што хоць школьны будынак не займеў такога лёсу, як у некаторых іншых вёсках. Яго адрамантавалі і абсталявалі пад сацыяльны прытулак для нямоглых. Частка музейных экспанатаў апынулася ў Мядзельскім музеі народнай славы, штосьці засталося ў клубе-бібліятэцы, рэшта ж невядома дзе падзелася. А народны фальклорна-этнаграфічны ансамбль "Вузлянка" яшчэ жыве! Праўда, у ім не сорак чалавек, як раней, а ўсяго каля дзесяці. Але жанчыны, у асноўным пенсіянеркі, збіраюцца на рэпетыцыі, спяваюць аўтэнтычныя песні, і атрымліваецца гэта ў іх проста выдатна! Мы ўпэўніліся ў гэтым, пабачыўшы падрыхтоўку ансамбля да ўдзелу ў свяце "Слуцкія паясы".

У Вузле мелі цікавыя сустрэчы з дзвюма адметнымі жанчынамі. Адна з іх, былая дырэктарка школы **Надзея Мішчанка**, расказала нам пра падзеі мясцовай гісторыі і паказала свае і матуліны вышыванкі. А мясцовая самадзейная мастачка **Ніна Гануш** запрасіла нас на экскурсію ў сваю невялічкую майстэрню, дзе мы змаглі пабачыць багатую выставу карцін гэтай неардынарнай асобы. Па нашым меркаванні, яе творы вартыя таго, каб дэманстравацца на выставах у музеях, бібліятэках і іншых установах культуры. Але большасць карцін пакуль што не мае рамак, ды і буклеты варта было б падрыхтаваць.

### Такіх творчых людзей у вёсачках неабходна падтрымліваць

Пра гэта падумалася і ў час наведвання вёскі Старынкі, дзе цяпер жыве ў бацькоўскай хаце спявак, былы саліст Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі **Уладзімір Каўрус**. Гэты таленавіты аптымістычны чалавек не толькі расказаў нам сваю цікавую біяграфію, паказаў альбомы з фотаздымкамі, але і праспяваў пад гармонік некалькі песень, прачытаў свае вершы, якіх у яго, як аказалася, напісана многа. Але не друкаваліся. Гэтак сама, як і ў яго сябрука, жыхара суседняй вёскі Русакі, **Аляксея**. Ён таксама прачытаў нам некалькі сваіх вершаў, якія запомніліся народнасцю, жартоўнай інтанацыяй і даволі высокай літаратурнай культурай. У размове Аляксей паведаміў, што піша ў асноўным прозу і твораў у яго, "як у Льва Талстога". Але не друкаваліся...

**Гэтыя нечаканыя сустрэчы са сціплымі творцамі, якія жывуць у невялікіх "шчарбатых" вёсках, дзе на адну жывую хату даводзіцца па некалькі закінутых, пацвердзілі высокі дух і высокую духоўнасць нашага народа.**



Фота Ігара ПРАКАПОВІЧА.

Самадзейная мастачка з вёскі Вузла Ніна Гануш.

Міжволі параўноўваючы скокі і, як казаў адзін мой сябра, "выраблянне" дзеячаў беларускай псеўдакультуры на экранах тэлебачання з творчасцю мясцовых самадзейных мастакоў, майстроў, пісьменнікаў, спевакоў, адчуваеш, што намнога прыемней мець стасункі з Аляксеем, Уладзімірам, Нінай, Надзеяй, жанчынамі з "Вузлянкі", чымсьці з тусоўшчыкамі сталічнай багемы. Бо ў тутэйшых творцаў, хай сабе, часам, і не хапае прафесіяналізму, але затое ёсць шчырасць, захопленасць жыццём і глыбокія беларускія карані.

### Каб кожны былы начальнік уладкаваў хаця б адну крыніцу…

Далей шлях пралягаў па паўднёвым узбярэжжы Нарачы. Гэта мясцовасць у часы Першай сусветнай вайны была арэнай крывавых баёў падчас Нарачанскай аперацыі. Сведкі той трагедыі – брацкія магілы рускіх салдат каля ракі Нарачанка і ў Чарэмшыцах, германскія агнявыя пункты каля Занарачы. У гэтай вёсцы нас чакала сустрэча з супрацоўнікамі мясцовай бібліятэкі **Людмілай Валадкевіч** і **Святланай Норкай**. Спадарыня Людміла ашчадна збірае і захоўвае матэрыялы па гісторыі, культуры і вядомых жыхарах Занарачы і ваколіц, стварыла багатую камп'ютарную базу інфармацыі. Асабліва шмат звестак і фотаздымкаў звязана з падзеямі Першай сусветнай вайны ў тутэйшай мясцовасці. Ёсць шэраг цікавых матэрыялаў пра вёску Карабаны, якія перадаў у бібліятэку яе ўраджэнец былы старшыня Камітэта дзяржаўнага кантролю Рэспублікі Беларусь **Зянон Ломаць**. Па ініцыятыве гэтага чалавека пастаўлены і асвечаны крыж-абярог на ўездзе ў вёску, зладжанае свята гэтага паселішча, адноўлена і асвечана некалькі крыніц…

**І з'явілася нечаканая думка: а каб кожны былы начальнік, ды і не толькі былы, ды і не начальнік, а проста жыхар Беларусі, ачысціў і ўладкаваў хаця б адну крыніцу… Наша зямля стала б краінай чыстых крыніц. І пілі б мы чыстую ваду, і мелі б мы светлыя думкі, і будавалі б мы прыгожую, заможную, шчырую і шчаслівую Беларусь…**

### Што за звер "зубронак"?

З такімі ўзнёслымі думкамі даехалі да нацыянальнага дзіцячага адукацыйна-аздараўленчага лагера "Зубраня". Раней даводзілася тут бываць неаднаразова, і заўсёды захапляўся узроўнем арганізацыі і зладжанасцю работы калектыву ўстановы. Але адна недарэчнасць заўсёды кідалася ў вочы і нараджала "нехарошыя" думкі пра мутантаў. Выклікае такую рэакцыю вялікі надпіс на ўездзе ў лагер – "ЗУБРОНАК". Што гэта за звер такі? Па-беларуску маленькага зубра называюць "зубраня" або "зубранё", таксама як і лісяня, аленяня, шчанё. Па-руску гэтага звера завуць "зубрёнок". А тут – "зубронак"! І ў гэтай форме назва множыцца ў перыядычных выданнях, дакументах, кніжных публікацыях. І потым хтосьці скажа, што гэта – літаратурная норма, і мутацыя будзе ўведзеная ў закон.

Адмаўляючыся ад роднай беларускай мовы, ад родных слоў, мы выклікаем мутацыю свядомасці і псіхікі, што, урэшце, разбурае душу. А гэта небяспечна. І балюча. Для народа, для краіны, для кожнага асобнага жыхара…



**Ігар ПРАКАПОВІЧ,** Паставы.

ТЭМА НУМАРА

# Ахвярамі педафіла сталі 9-гадовыя дзеці



Фота wallpaperselect.ru

**Псіхолаг Алена Галоўка кажа, што рабіць бацькам, якія даведаліся, што іх дзіця стала ахвярай педафіла**

1. Нельга ўпадаць у паніку, асабліва пры дзіцяці, і казаць, што жыццё скончылася
2. Ні ў якім разе нельга рабіць выгляд, што нічога не адбылося
3. З дзіцем трэба пагаварыць, даць яму магчымасць выгаварыцца, але не зводзіць да таго, што ўсё нармальна
4. Нельга зрывацца на дзіцяці ці казаць, што ён сам вінаваты
5. Нельга задаваць пытанні накшталт: "Чаму ты не ўцёк?", "Чаму ты туды пайшоў?"
6. Не трэба займацца самабічаваннем, лічыць сябе дрэнным бацькам і наракаць, што не ўратаваў дзіця або няправільна выхаваў

**Абласная лінія кругласутачнай экстраннай псіхалагічнай дапамогі "Тэлефон даверу": (8-017) 202-04-01**
**Дзіцячая тэлефонная кругласутачная лінія: 8-801-100-1611**

МАЛАДЗЕЧНА

**Асуджанаму па гэтым злачынстве маладзечанцу 35 гадоў. Супраць яго было ўзбуджана 10 крымінальных спраў.**

Цягам 2009 года мужчына гвалціў дачку сваёй сужыцтніцы, распавёў начальнік аддзела па наркакантролі і супрацьдзеянні людзьмі Маладзечанскага РАУС **Дзмітры Сухоцкі**.

Як паведамляе следчы, у кватэру, дзе жыў асуджаны, прыходзілі і іншыя дзеці, знаёмыя дачкі сужыцтніцы. Ён гвалціў іх таксама: і хлопчыкаў, і дзяўчынак, без разбору. Самым малодшым было па 9 гадоў.

Пасля 2009 года мужчына перастаў гвалціць і вярнуўся да нармальнага жыцця. Дзеці нікому нічога не расказвалі, а сужыцтніца ні пра што не здагадвалася.

– Ей цяжка паверыць і дагэтуль, – зазначае Дзмітры Сухоцкі. – Падчас расследавання праводзілі спецыяльныя экспертызы, з дзецьмі размаўлялі ў прысутнасці спецыяльных псіхолагаў.

Пацярпелі трое. Узбудзілі дзесяць крымінальных спраў, паколькі ад дамаганняў дзеці пацярпелі не адзін раз.

Следчы мяркуе, яны вельмі доўга маўчалі, таму што мужчына іх запалохваў. Дзеці нічога не казалі ні сваім аднагодкам, ні бацькам.

Некалькі месяцаў таму гвалтаўніка асудзілі на 15 гадоў зняволення. Расследаванне справы цягнулася чатыры месяцы.

Як заўважае Дзмітры Сухоцкі, апошнім часам досыць часта выплываюць такія справы. Колькасць раскрытых злачынстваў па педафіліі павялічваецца. Пераважна гэта падзеі, якія адбываліся не ў бліжэйшы час, а нашмат раней. Сёлета гэта адзіная раскрытая справа па педафіліі.

Асуджанага затрымалі ў студзені 2015 года. Раней ён жыў каля Чысці, потым перабраўся ў Маладзечна. Мужчына ўжо быў судзімы.

Адкуль стала вядома пра гвалт, следства не раскрывае.

## Як заўважыць, што дзіця згвалтавалі

Парады дае псіхолаг Маладзечанскага тэрытарыяльнага цэнтра сацыяльнага абслугоўвання насельніцтва **Алена Галоўка**.

Рэакцыя на сэксуальны гвалт у дзяцей і падлеткаў розная.

**Дзецям да трох гадоў** уласцівыя страхі, парушэнне сну, страта апетыту, агрэсія, страх перад чужымі людзьмі, сэксуальныя гульні.

**У дашкольнікаў і малодшых школьнікаў** на першы план выступаюць эмацыйныя парушэнні: трывога, баязлівасць, блытанасць пачуццяў, віна, сорам, агіда, бездапаможнасць, адчуванне сваёй сапсаванасці. У дзіцячых малюнках з'яўляюцца чорныя і цёмныя колеры, страшныя эпізоды. Парушаюцца паводзіны: з'яўляецца адасобленасць, агрэсія.

**Для падлеткаў** – агіда, сорам, віна, недавер, сэксуальныя парушэнні, адчуванне ўласнай сапсаванасці, частая задуменнасць, цяжкасці ў зносінах з аднагодкамі, пазбяганне зносін з імі. У паводзінах: спробы суіцыду, сыходы з дому, агрэсія, рэзкае змяненне паспяховасці, прагулы ў школе, нездольнасць абараніць сябе, несупраціўленне гвалту і здзеку над сабой.

> **У дзіцяці гібкая псіхіка, дзеці добра спраўляюцца з такімі сітуацыямі, ім лягчэй іх перажыць, чым дарослым. Звычайна бацькі пачынаюць панікаваць, і жыццё сям'і змяняецца настолькі, што дзіця атрымлівае большую траўму ад наступстваў, чым ад самой трагедыі.**
>
> Псіхолаг Алена Галоўка

Кожная сітуацыя ўнікальная, кожнае дзіця шукае свае спосабы справіцца з гвалтам, расказаць, што здарылася.

Некаторыя з гэтых прыкмет могуць з'явіцца ў любога дзіцяці, якое сутыкаецца са стрэсам. Некаторыя дзеці, якія падвяргаліся гвалту, не праяўляюць ні аднаго з трывожных сімптомаў, апісаных вышэй, і паспяхова хаваюць тое, што з імі адбылося. Але калі мы маем справу з дзіцем, якое перажывае моцны стрэс, мы мусім не выключаць магчымасць сэксуальнага гвалту. Дзецям вельмі цяжка адкрыта казаць пра гэта. Бацькам варта наладжваць даверлівыя адносіны з дзецьмі, дзіця павінна не баяцца расказваць пра тое, што з ім адбываецца.

## Як размаўляць з дзіцем, якое перажыло гвалт

Галоўнае – быць побач, любіць, клапаціцца. Пераканайце дзіця ў тым, што вы ўсё роўна любіце яго. Кажыце, што ў здарэнні няма яго віны.

Гаварыце, што дзіця правільна паводзіла сябе падчас нападу. Не крытыкуйце яго паводзіны. Магчыма, яму давялося зрабіць выбар паміж жыццём і смерцю.

Настойвайце на праходжанні медыцынскага агляду як мага хутчэй, нават калі няма відавочных траўмаў.

Будзьце ўважлівыя да таго, з-за чаго дзіця можа адчуваць сябе некамфортна. Не падыходзьце непрыкметна ззаду, не дакранайцеся нечакана і без дазволу. Магчыма, дзіця хоча, каб яго абнялі і падбадзёрылі, а магчыма, хоча быць самнасам, пакуль не адчуе сябе ў бяспецы. Не крыўдуйце, калі дзіцяці будзе цяжка адкрыцца вам эмацыйна. Упэўніце яго, што з вамі яно ў бяспецы, гэта дапаможа вярнуць давер і эмацыйную блізкасць. Патрэбныя вытрымка і цярпенне: гэта не хуткі працэс.

Заахвочвайце пацярпелага расказаць пра тое, што здарылася, яму неабходна выплюхнуць свае эмоцыі. Гэта можа быць складана, пастаянна чуць у дэталях, што здарылася. Памятайце: для вас цяпер важней за ўсё тое, што трэба пацярпеламу. Растлумачце, што калі ён будзе распавядаць пра здарэнне, ён мае больш шанцаў вылечыцца. Скажыце, што вы ў любы час гатовыя выслухаць, але не будзьце занадта настойлівыя.

І абавязкова звярніцеся па дапамогу да псіхолага.

**Колькасць выяўленых выпадкаў педафіліі па краіне**




**Шэры слупок – колькасць выяўленых выпадкаў педафіліі за год. Цёмна-шэры – колькасць цяжкіх з іх. Інфармацыя паводле Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі.**

**Сярод 177 сёлетніх здарэнняў па краіне**




**Таксама 133 асобы падазраюцца ў здзяйсненні злачынстваў, звязаных з педафіліяй. 68 з іх заключылі пад варту. Акрамя таго, выяўлена 126 пацярпелых ад злачынстваў, звязаных з педафіліяй, з іх 71 непаўнагадовы, 44 малалетнія дзяўчынкі, 11 малалетніх хлопчыкаў. Паводле Міністэрства ўнутраных спраў Беларусі.**

## Як можа паўплываць гвалт у дзяцінстве

Парушэнні, якія ўзнікаюць пасля гвалту, часта прыводзяць да зменаў, якія накладваюць адбітак на ўсё жыццё.

Сярод доўгатэрміновых небяспечных наступстваў сэксуальных або распусных дзеянняў могуць быць частыя дэпрэсіі, страхі, трывожнасць, нізкая самаацэнка, злоўжыванне алкаголем і наркотыкамі, спыненне навучання ў школе, стрэс, сэксуальныя засмучэнні, псіхічныя праблемы агульнага характару. Больш за палову такіх дзяцей, дасягнуўшы 21 года, будуць мець тую ці іншую форму псіхапаталогіі.



Настасся РОЎДА
nastya.rovdo@gmail.com
Vel 566-26-99 (працоўны)

ЁСЦЬ ПРАБЛЕМА

# Блізкія алкаголікаў лечаць сваю хваробу ў групе падтрымкі

МАЛАДЗЕЧНА

**Адзін чалавек сеў на лаўку пад дрэва. На галінках было шмат галубоў, і яны зрабілі тое, што часам робяць птушкі. Чалавек пачаў крычаць на іх, але пасля зразумеў: галубы зрабілі гэта не таму, што ён сеў на лаўку, а проста таму, што яны галубы. Тое самае і з алкаголікамі. Яны п'юць не таму, што іх блізкія робяць нешта няправільна, а таму, што яны алкаголікі.**



Фота pelikan-fond.ru

### Як далучыцца

Сходы ў групе падтрымкі АлАнон для сваякоў і блізкіх алкаголікаў адбываюцца па чацвяргах ў 17 гадзін, у нядзелю – у 15 гадзін. Адрас: Маладзечна, Вялікі Гасцінец, прыбудова ля касцёла з боку "Модуля".

Сходы для алкаголікаў (АА) адбываюцца ў гэтым жа будынку па чацвяргах у 19 гадзін, па нядзелях – у 13:30.

### Як ісці па лесвіцы духоўнасці

На сходах удзельнікі чытаюць спецыяльную літаратуру, якую распрацавалі для груп падтрымкі. Мы прапануем некаторыя выtрымкі.

✔ На сходах не спрабуюць вырашыць мае праблемы за мяне.

✔ Любоў даецца незалежна ад заслуг.

✔ Я магу змагацца і прайграць гэту бітву, а магу прызнаць бяссілле перад алкагалізмам. Лепш імкнуцца вылечыцца ад наступстваў для мяне.

✔ Гэта сямейная хвароба. Кожны, у чыёй сям'і ёсць алкаголь, гэта разумее. Яна паражае ўсю сям'ю.

✔ Не трэба чакаць ад алкаголіка, што выканае абяцанні, – так жыццё становіцца больш кіруемым.

✔ Адасабляйце асобу ад хваробы.

✔ Казаць алкаголіку: калі б ты мяне любіў, то не піў бы, тое самае, што сказаць хвораму: калі б ты мяне любіў, то не падхапіў бы туберкулёз.

✔ Яго паводзіны нічога не гавораць пра мяне, яны гавораць толькі пра яго. А вось мае паводзіны, мае рэакцыі – гэта тое, за што адказная я.

✔ Каб не пазбавіць жадання лепшага жыцця, я дазволю алкаголіку сутыкнуцца з наступствамі сваіх рашэнняў.

Двойчы на тыдзень у Маладзечне збіраюцца ўдзельнікі групы падтрымкі АлАнон. Яна створаная для сваякоў ці блізкіх алкаголікаў, на жыццё якіх паўплывала залежнасць знаёмых.

Спачатку многім з удзельнікаў падавалася, ад чаго гэта лячыцца павінны яны? Гэта ж не яны п'юць і спяць на падлозе. Але адважыліся прыйсці на сход, паслухалі гісторыі іншых удзельнікаў і ў кожнай з іх адчулі падобныя да сваіх перажыванні. Галоўная ўмова групы – ананімнасць. Ніхто не просіць называць сапраўднае імя, ніхто не мае права распавядаць за сценамі залы пра вашы гісторыі.

Наведнікі працуюць па спецыяльнай праграме "12 крокаў", якая дапамагае змагацца з хваробай і знайсці новы арыенцір.

Удзельнікі ананімна дзеляцца сваімі гісторыямі з чытачамі "РГ", каб натхніць ахвяр алкагалізму блізкіх рашыцца лячыць раны, якія атрымалі ад хваробы, і далучыцца да АлАнон.

## Гісторыі блізкіх алкаголікаў

**№1.** Я прасачыла, што ў маім родзе кожнае пакаленне пацярпела ад алкагалізму: хтосьці памёр ад перадазіроўкі, хтосьці забіў сябе, нехта закончыў жыццё ў бамжатніку. Бацька таксама быў запойны. Я прывыкла да адзіноты, не ўмела паказваць пачуцці, прасіць дапамогі.

Мужа абрала з сям'і алкаголікаў. Здавалася, што ў першым шлюбе я была ідэальнай жонкай: верная, добрая гаспадыня, але праз год адносіны трашчалі па швах. Звярнулася да псіхолага і даведалася, што ў дзяцей алкаголікаў заблакаваныя пачуцці. Яны на самой справе не могуць ні прасіць, ні дзякаваць. Для іх свет зацыклены на сабе.

Работа з псіхолагам мне дапамагла, але і ў другім шлюбе ўсе праблемы паўтарыліся. Калі я прыйшла ў праграму, то зразумела, што не павінна цягнуць увесь воз праблем на сабе, не павінна браць 100-працэнтную адказнасць за блізкага чалавека, а павінна даваць яму свабоду. Гэта быў іншы ўзровень разумення жыцця, напоўнены духоўнасцю. Я навучылася жыць так, каб жыццё не круцілася толькі вакол алкагалізму, які цяпер бачу як духоўную хваробу.

**№2.** У маёй сям'і былі алкаголікі, і мужа выбрала з гэтай хваробай. У нас часта бывалі размовы: "Ты ж мяне кахаеш, любіш дзяцей, кідай піць", – "Так, вядома!". Я магла радавацца некалькі гадзін, пакуль гэты чалавек не зрываўся зноў. Гэтую карусель я спыніць не ў сілах.

Прыйшоўшы ў групу, я ўбачыла, як мной маніпулююць. Прычым не толькі старэйшы сын, але і мая дачка-дашкольніца. Я прыгадала, колькі разоў спрачалася з бацькам і даказвала сваю праўду. Алкаголік зрабіў бы ўсё, каб давесці мяне да гневу, а пасля выглядаць ахвярай і атрымаць нагоду піць.

**Нават калі сварка на чужых вачах, вар'яткай выглядаю я. Ён за адну хвіліну можа давесці мяне да такога стану, што я ўся трасуся.**

Муж пакуль не кінуў піць, але я больш не даю яму падставу сысці з дому з-за майго крыку. Ён спрабуе дражніць, і часам гэта атрымліваецца, але я навучылася стрымлівацца. Разумею, чаму мой тата так лёгка выводзіў маму, і яна выглядала недарэчна імпульсіўнай. Цяпер я не пакутую так ад алкагалізму мужа. Гэта яго праблема. Група дапамагае не існаваць, а жыць і перадаваць як мага больш нармальныя адносіны дзецям.

**№3.** І я, і муж раслі ў сем'ях алкаголікаў. Хаця мне падавалася – ну, які ўжо алкаголік мой бацька? Ну, вып'е з палучкі. Цяпер я разумею, чаму ў нас з мужам так складваліся адносіны. Скандалы на пустым месцы. Усе праблемы імкнулася вырашаць сама, што пасля вылілася ў звычайныя хваробы. Раней, калі б я папрасіла пра нешта, а ў сына не атрымлівалася б, я можа і не сказала б, але абавязкова падумала б: "Ну ё-маё, як толькі мне трэба..." Дачка аднойчы сказала – "Табе падабаецца быць ахвярай, ну дык і будзь".

**№4.** Мой тата вельмі хутка напіваўся і пачынаў паводзіць сябе дзіўна. Калі напіваецца мой муж, мяне гэта моцна ўражвае, справіцца з гэтым не магу. Ён, напрыклад, гучна ўключае музыку часоў сваёй маладосці, таму што застаецца ў тым часе, у тых эмоцыях.

**Заўважыла, што алкаголь на самога пітушчага не заўсёды такі згубны. А вось блізкія алкаголіка вельмі пакутуюць і абрастаюць мноствам хвароб.**

Думкі, нібы ты можаш усё, што з усім справішся, вельмі шкодныя. Я захапляюся мужнасцю дзвюх жанчын у нашай групе, якія працягваюць кахаць мужа-алкаголіка. Я гэтым пахваліцца не магу.

**№5.** Я як дзіця сям'і, у якой праблема алкаголю, спрабавала змяніць не сябе, а свет вакол. І набіла гэтым шмат шышак. У АлАнон зразумела, што пачынаць трэба з сябе. А мне здавалася, што я ва ўсім маю рацыю, усё расстаўлю па сваіх месцах, усё змагу. Але не, я надарвалася. Складана ў сталым узросце мяняць погляд на жыццё. Я адчувала сябе разбуранай неадэкватнымі паводзінамі блізкіх. Пасля праграмы яны не перасталі піць, але мне ад гэтага не так моцна баліць. Я не стала эгаісткай, я змагла разважаць разумна. Хваробу трэба лячыць, калі ўсё кепска, а ты кажаш усім, што ўсё добра.

## Якія праблемы абмяркоўвалі ў групе

Пасля чытання спецыяльнай літаратуры і выступу кожнага ахвотнага ўдзельніка пачынаюць чаяванне. Падчас яго яны абмяркоўваюць тое, што хвалюе. Прапануем выказванні ў час чаю.

– Немагчыма лячыць хваробу, якой няма. Таму першы крок, калі ў вашай сям'і ёсць алкаголік, – прызнаць гэта. Многіх блізкіх стрымлівае боязь не выглядаць у вачах знаёмых і суседзяў лепшымі, чым ёсць. Часцей ад алкагалізму блізкага пакутуе жанчына. Яна ціха плача, што ён прыйшоў п'яны, канапа ўжо гніе ад мачы і ванітаў, купляе новую канапу, але за дзвярыма дома ўсімі сіламі імкнецца даказаць, што ў сям'і ўсё ў парадку, каб жа толькі ніхто не даведаўся, што ён алкаголік. Але ўжо і так усе ведаюць. Такую хваробу не схаваеш.

– Для мяне свет падзяліўся на залежных і сузалежных.

– Алкаголікі не могуць прыняць перамены, а нам іх вельмі не хапае. Яны хочуць, каб было так, як было.

– Вельмі цяжка з алкаголікам, які перастае піць. Мы прывыклі жыць з алкаголікам, вінаваціць яго ва ўсіх праблемах. Але калі ён пачынае цверазець, нам даводзіцца ставіцца да яго з павагай, апускаючы тыя пакуты, якія нам былі праз яго. Калі ён цвярозы, гэта іншы чалавек, але як нам выкрасліць з памяці перажытае з ім п'яным? Ён учора ляжаў каля плінтуса, а цяпер мы павінны з ім лічыцца. Жонкі алкаголікаў – прафесійныя ахвяры з кіпцюрамі. Нам вельмі зручна выглядаць беднымі і няшчаснымі, гэта ж ён кепскі. Але сваімі кіпцюрамі мы не даём мяняцца: калі ён сапраўды кіне піць, то якой стану я? Я ўмею хаваць картку, прыкрываць перад начальнікам, але як мне пачаць ставіцца да яго з годнасцю і павагай?

– Цвярозасць – гэта не забарона прадаваць алкаголь ад 23 да 9, не кадзіраванне, гэта праца над сабой.

– Нас выхавалі так, каб мы цягнулі ўсё на сабе, каб кантралявалі жыццё ўсіх сваякоў. Мы не жанчыны, мы выжывальшчыцы.

– Праграма навучыла не прыніжаць алкаголіка і не сварыцца з ім, тады і ў яго вяртаецца павага да цябе. Калі ты на яго крычыш, ён таксама не будзе паважаць цябе. Калі я крычу, мяне не чуе ніхто.

– Раней вельмі абуралася, калі ён прыходзіў п'яны і яшчэ нешта хацеў. Пасля навучылася аддзяляць чалавека ад яго хваробы. Але дома зрабіць гэта немагчыма. Для гэтага трэба група.

– Праграма вучыць жыць тут і цяпер з тым, што мы маем.



Зоя ХРУЦКАЯ
ripenie@yandex.by

ФУТБОЛ. ДРУГАЯ ЛІГА

## “Маладзечна-ДЮСШ-4” прывезла перамогу з Клецка

МАЛАДЗЕЧНА

Гэтая першая перамога ў плэй-оф, якая вывела каманду з трэцяга радка на другі.

Маладзечанцы гулялі з “Клецкам” у суботу, 17 кастрычніка.

Адзіны гол забіў нападаючы **Павел Майсяёнак**, які накіраваў мяч у вароты саперніка на 79-й хвіліне. Да канца матча лік застаўся на адзнацы 1:0.

Каманда “Клецка” падчас гульні атрымала тры жоўтыя карткі.

Наступная гульня маладзечанскай каманды адбудзецца ў гасцях на стадыёне “Тарпеда” ў Мінску. Гульня пройдзе 24 кастрычніка, пачатак а 14 гадзіне.

Зоя ХРУЦКАЯ.

ХАКЕЙ

## “Дынаму-Маладзечна” не пакарыўся Кубак Салея

МАЛАДЗЕЧНА

На дамашняй пляцоўцы 20 кастрычніка хакейны клуб “Дынама-Маладзечна” праводзіў другі фінальны матч Кубка Салея супраць мінскага “Юнацтва”.

Матч завяршыўся ўнічыю 0:0. Кубак Беларусі па хакеі, які носіць імя **Руслана Салея**, заваявала “Юнацтва”.

Аддзел інфармацыі.

НАВІНЫ

## “Смаргонь” мінімальна перамагла

СМАРГОНЬ

“Смаргонь” 18 кастрычніка на дамашнім стадыёне прымала ФК "Гомельчыгункатранс". Смаргонцы выйгралі 1:0.

Адзіны гол з пенальці забіў **Сяргей Крот** на 14-й хвіліне. Пенальці прызначылі якраз за знос Сяргея.

## “Ашмяны” перайгралі лідара

АШМЯНЫ

“Ашмяны” 17 кастрычніка гулялі з ФК “Узда”, які на той момант лідзіраваў у фінальнай частцы чэмпіянату Беларусі па футболе ў другой лізе. “Ашмяны” у гасцях перамаглі з лікам 3:1.

## “ДЮСШ-4” з Маладзечна перамагла

ВІЛЕЙКА, МАЛАДЗЕЧНА

Матчы 24 тура чэмпіянату Мінскай вобласці па футболе 18 кастрычніка каманды рэгіёна правялі ў гасцях.

“Вілія” з Вілейкі гуляла з “Крупкамі-ДРБУ” і прайграла 0:2.

– Гулялі добра, але не пашчасціла,– расказвае прадстаўнік “Віліі” **Алег Гулевіч**. – Мелі тры стопрацэнтныя моманты і не рэалізавалі ніводнага. Далей спрацавала старое футбольнае правіла: “Не забіваеш ты – забіваюць табе”. Неўзабаве прапусцілі адзін гол. Пайшлі ў атаку – і атрымалі другі.

“ДЮСШ-4” перайграла “СМІаўтатранс” са Смалявіцкага раёна 2:1. Галы ў маладзечанцаў на рахунку **Ігара Талькоўскага** і **Сяргея Галюка**.

“Забудова-Буд” прапусціла шэсць галоў у Дзяржынску ад ФК “Фалько”, а забілі чысціцы толькі тройчы (два з галоў на рахунку **Аляксандра Працкевіча**).

“ДЮСШ-4” засталася на трэцім месцы. “Забудова-Буд” ідзе восьмай, “Вілія” – дзясятай. У абедзвюх камандаў па 31 ачку.

## У Вілейцы гулялі ў шашкі

ВІЛЕЙКА

Спаборніцтвы па шашках у межах круглагадовай спартакіяды працоўных калектываў Вілейскага раёна прайшлі 16 кастрычніка.

Сярод мужчын лепшымі гульцамі турніру сталі **Валеры Купцэвіч** з аддзела адукацыі, спорту і турызму і **Алег Губіч** (“Зеніт-БелОМА”).

Паміж жанчын перамагла **Тацццяна Сарока** з аддзела адукацыі, спорту і турызму.

У камандным заліку першае месца заняў аддзел адукацыі, спорту і турызму. На другім – прадстаўнікі “Зеніт-БелОМА”, на трэцім – Вілейскага доследнага лясгаса. Пра ўсё гэта распавёў інструктар-метадыст цэнтра фізкультурна-аздараўленчай работы “Сатурн” **Аляксандр Вайда**.

Алесь ВЫСОЦКІ.

ФУТБОЛ

# На полі бачна: альбо ты каша, альбо баец

## На Мядзельшчыне моладзь гартуе характар у матчах Дваровай лігі

МЯДЗЕЛ

**На Мядзельшчыне моладзь заклікалі “адарваціца ад компа”, стварыць футбольную каманду і зладзіць чэмпіянат. Адгукнуліся ў розных кутках раёна. Так з’явілася Дваровая ліга Мядзельскага раёна.**



Фота з суполкі Дваровай лігі Ўкантакце.

Сяброўскія поціскі рук пасля матча паміж нарацкай і свірскай камандамі.

Усе пачалося з таго, што **Аляксей Раброў** у 2011 годзе са сваімі сябрамі сабраў у вёсцы Нарач (Кабыльнік) футбольную каманду. І адразу ўзнікла пытанне, супраць каго гуляць, акрамя школьнікаў.

– Моладзь цяпер аддае перавагу камп’ютарным гульням. Таму трэба шукаць падыходы, каб выцягнуць іх на вуліцу і даць магчымасць добра правесці час, – расказвае Аляксей. – Даведаўся пра існаванне аматарскіх чэмпіянатаў у Мінску ды Гомелі. Вырашыў знайсці аднадумцаў у раёне і разам стварыць сваю лігу, у якой змогуць удзельнічаць усе ахвотныя. Два гады таму стварыў суполку у адной з сацсетак. Хутка прыйшлі радасныя весткі: хлопцы з Мядзела падтрымалі ідэю. Мой лепшы сябра даведаўся, што ў Свіры таксама ёсць аднадумцы.

Урэшце з’явілася ліга. Назву яе выбралі ўдзельнікі суполкі галасаваннем, сціпла адмёўшы гучную назву “Мядзельская прэм’ер-ліга” ды іншыя варыянты.

Першы сезон праходзіў сёлета ад чэрвеня да верасня. У ім змагаліся чатыры каманды: з Мядзела, Нарачы, Сватак і Свіры. У іх складах былі і школьнікі, і дарослыя. Узрост гульцоў – ад 14 да 29 год.

### Самі рыхтавалі футбольныя палі

Сілы і час футбалісты выдаткоўвалі не толькі на гульню. Гульцы з Нарачы, Сватак і Свіры сваімі сіламі падрыхтоўвалі футбольныя палі. Прыбіралі смецце, касілі, наносілі разметку.

Чэмпіёнам стала каманда з Мядзела ФК “Юнацтва”. Другое месца ў гульцоў са Свіры, трэцяе – за сваткаўскімі футбалістамі.

– Гульцы аддавалі ўсе сілы, каб паказаць якасны футбол. Атмасфера на матчах была прыемная: прыходзілі заўзятары – як маладзёны, так і дарослыя, – дзеліцца Аляксей. – Дзякуючы лізе хлопцы, якія марылі паўдзельнічаць у чымсьці падобным, зрабілі гэта. З’явіліся новыя знаёмствы, жыхары раёна добра бавілі час, калі наведвалі гульні.

Аляксей прыгадаў адметны для яго момант. Пасля аднаго з матчаў ён ішоў у майцы з эмблемай свайго клуба. Мінакі пазналі яго і падзякавалі за тое, што арганізавалі чэмпіянат, маўляў “ёсць на што паглядзець”.

### “Футбол – гэта барацьба. Ды і ўсё наша жыццё – барацьба”

Расказвае капітан каманды са Свіры **Дзмітры Ахрановіч:**

– Галоўнае, што мы правялі першы сезон Дваровай лігі – хай з затрымкамі, тэхнічнымі праблемамі. Але ўласнымі сіламі арганізоўвалі хлопцаў, збіралі ў каманды, пастаянна трэніраваліся па вечарах, прыбіралі і падрыхтоўвалі стадыёны да гульняў, распрацоўвалі лагатыпы.

Дзмітры перакананы, што дваровая ліга – патрэбная справа. Асабліва ў пасёлках і вёсках, дзе моладзі цяжка сябе паказаць. І па-філасофску паразважаў пра футбол з жыццём:

– Футбол – гэта барацьба. Ды і ўсё наша жыццё – барацьба. На полі – эмоцыі, падзенні і ўдары, траўмы і сінякі. Але з іншага боку, у хлопцаў выпрацоўваецца мужнасць, цягавітасць, сіла, запал да перамогі, праца ў камандзе, праява свайго сапраўднага характару на полі. Тут бачна: альбо ты каша, альбо баец. І гэта вельмі неабходна для хлопцаў-падлеткаў: не баяцца, а змагацца. Бо цяпер ты змагаешся за мяч, а потым ты як годны павагі мужчына будзеш змагацца, каб забяспечыць і абараніць сваю сям’ю і родных.

Арганізатары лігі дзякуюць усім, хто прычыніўся да чэмпіянату і прыходзіў на гульні. Асаблівай падзякі заслугоўваюць капітаны камандаў ды **Яўген Бабровіч** і **Віктар Салбукоў**.

Цяпер актыў лігі рыхтуецца да другога сезона. Таксама правадзяць таварыскія гульні паміж клубамі, робяць атрыбутыку. Ды аднадумцаў шукаюць у іншых раёнах – каб пастарацца разам зладзіць чэмпіянат.



Алесь ВЫСОЦКІ
alvy@tut.by

**Даведка “РГ”.** Лепшымі бамбардзірамі першага сезона сталі гульцы ФК “Сваткі” **Дзмітры Шабан** і **Кірыл Русак**. Яны забілі па восем галоў. Лепшыя асістэнты – **Андрэй Даткевіч** (“Union Naroch”) і **Уладзімір Кабацура** (“Сваткі”). На іх рахунку па чатыры выніковыя перадачы.



**Камент-эксперт**

**Не трымайце ў сабе: напішыце, што думаеце**

Пакідайце каментары пад артыкуламі на інтэрнэт-старонцы



Rh.by

ці ў суполках газеты ў сацсетках

**Як у Вілейцы прыбіралі старыя каталіцкія могілкі, што называюць "Гарадзішча"**

Малайцы – гэта зусім мала! Вы заслугоўваеце нашмат большага, вялізнай павагі і ўсеадзяржаўнага прызнання! Калі ўжо наша ўлада зверне ўвагу на грамадскія ініцыятывы і пачне праяўляць іх падтрымку? Тое, што ў грамадстве гуляе вірус чэрствасці і абыякавасці, ляжыць галоўным чынам на сумленні мясцовай улады. Прабачце, што не падтрымаў практычна! Я рэабілітуюся, абяцаю. З павагай, ***Алесь Раткевіч.***

**"Не наша гульня". "Маладзечна-ДЮСШ-4" саступіла мінскаму "Праменю" з лікам 0:2**

Няўжо ў "РГ" прачнулася цікавасць да маладзечанскага футбола?! Прыемна. У камандзе журналістаў "РГ" замена. Замест Наталлі Тур на поле ацэнкі нашай гульні выходзіць Зоя Хруцкая. З выхадам новага форварда ўпершыню з'явілася турнірная табліца. Дзякуй, што нарэшце так грунтоўна звярнулі на нас увагу. Але ўсё ж некалькі заўваг я сабе дазволю. Дзола (выбачайце, Дзмітры Касцюк) па амплуа паўабаронца, а не абаронца. І галоўнае: калі паважаная рэдакцыя дазволіла сабе публікаваць унітазы Рухлевіча, то я параю гэтаму спецыялісту заставацца дзенебудзь дома на сваім унітазе. Паверце, каманда без яго цудоўна справіцца. Яшчэ раз дзякуй. ***Кіпер.***

Кіпер, вось так вы адносіцеся да аматараў футбола, да тых, хто прыходзіць на кожную гульню, каб апладысментамі Вам падзякаваць... Рухлевіча выказванні... Кожны мае сваё меркаванне, і я ў гэтым выпадку дзесьці з ім пагаджаюся, а дзесьці не. Але такія словы вельмі здзіўляюць... Ваша работа гуляць, а наша – абмяркоўваць ! ***Дзмітры.***

**Гаспадар "сцякляшак" у Маладзечне ў судзе будзе змагацца за працоўныя месцы**

Наша Цэнтральная плошча пасля "Дажынак-2011" стала вельмі прыгожай. Вакол цікавыя архітэктурныя будынкі. І міні-магазінчыкі ўжо неяк не ў тэму. ***Рыма.***

● РЭПЕРТУАРЫ

## Мінскі абласны драматычны тэатр

*ВЯЧЭРНІЯ СПЕКТАКЛІ*

ПРЭМ'ЕРА. **"Аблом OFF"** (лірычная камедыя ў 2-х дзеях), *Міхаіл Угараў*
27 кастрычніка – у 19:00

**"Любоў па-італьянску"** (трагікамедыя ў 2-х дзеях па матывах п'есы Э. дэ Філіпа "Цыліндр"), Эдуарда дэ Філіпа
29 кастрычніка – у 19:00

**"Не такі, як усе"** (камедыя ў 2-х дзеях), *Аляксей Слапоўскі*
30 кастрычніка – у 19:00

Тэатр мае права на замену спектакляў
***Маладзечна, вуліца Чкалава, 7.***
Тэл. для даведак: **75-24-17** (каса), **75-29-16** (намеснік дырэктара).
E-mail: modt@tyt.by, http://theatre-modt.by/.
УНП 600066659

## Мінскі абласны тэатр лялек "Батлейка"

ПРЭМ'ЕРА. **"Кот у ботах"** (казка-прыгода, рус.), *Г. Уладычына*
25 кастрычніка – у 12:00

Чакаем вас, шаноўныя гледачы, у нашым тэатры па адрасе: Маладзечна, вул. Драздовіча, 5-в. Тэл. **(8-0176) 75-36-73, 76-84-27.**

МАТЛ "Батлейка" УНП 600136804

● СУДОКУ

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | 4 | | | | 9 | | | |
| | | 5 | 2 | | | | 4 | |
| 2 | | 6 | 5 | | | | 9 | |
| 8 | | | 6 | | | 7 | | |
| | 3 | | 9 | | 4 | | 2 | |
| | | 9 | | | 1 | | | 4 |
| | 5 | | | | 2 | 4 | | 1 |
| | 9 | | | | 8 | 3 | | |
| | | | 1 | | | | 5 | |

Запоўніце ўсе пустыя клеткі з дапамогай лічбаў ад 1 да 9 так, каб у кожным радку, слупку і кожным раёне (3x3) лічба ад 1 да 9 сустракалася толькі адзін раз.



● АДЗІН МОМАНТ З ЖЫЦЦЯ ВІЛЕЙКІ



Добраўпарадкаванне вуліцы Вадап'янава да "Дажынак": пакладзеная тратуарная плітка ад будынка стаматалогіі да будынка "хуткай дапамогі", пракапаная траншэя пад бардзюр. Фота Ігара МАРОЗА.

# Кінатэатр "Радзіма", Маладзечна

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Анімацыя, фэнтэзі, камедыя **"Монстры на канікулах"** (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
23 кастрычніка – у 17:30
24, 25, 27 кастрычніка – у 14:00
24, 25, 27 кастрычніка – у 17:50
26, 28 кастрычніка – у 14:20
29 кастрычніка – у 16:50
Цана білета: 30 000 – 50 000

Фэнтэзі, прыгоды, сямейны **"Пэн: Падарожжа ў Нетландыю"** (3D, ЗША, 2015, без узроставых абмежаванняў)
25 кастрычніка – у 19:50
29 кастрычніка – у 18:50
Цана білета: 50 000 рублёў

Прыгоды, фантастыка **"Марсіянін"** (3D, ЗША, 2015, пасля 16 год)
26 кастрычніка – у 16:20
28 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 45 000 – 55 000

Анімацыя, прыгоды **"Перапалох у джунглях"** (3D, Мексіка, Паўднёвая Карэя, 2014, без узроставых абмежаванняў)
24 кастрычніка – у 12:10
25, 27 кастрычніка – у 16:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Анімацыя, камедыя **"Кунг-фу Трусік: Валадар агню"** (3D, Кітай, 2015, без узроставых абмежаванняў)
24 кастрычніка – у 16:00
25 кастрычніка – у 12:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Трылер, баявік, драма **"Мы, браты"** (Беларусь, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
26 кастрычніка – у 21:30
28 кастрычніка – у 16:20
Цана білета: 35 000 – 45 000

Трылер, драма **"Радзіма"** (Расія, 2015, пасля 18 год)
23 кастрычніка – у 22:00
24 кастрычніка – у 19:50
27 кастрычніка – у 22:20
Цана білета: 45 000 – 50 000

Трылер, прыгоды, драма **"Прагулка"** (3D, ЗША, 2015, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
23 кастрычніка – у 19:30
24, 25 кастрычніка – у 22:00
26 кастрычніка – у 19:00
27 кастрычніка – у 19:50
28 кастрычніка – у 18:30
Цана білета: 55 000 – 60 000

Прэм'ера! Мультфільм, прыгоды, ваенны **"Крэпасць: Шчытом і мячом"** (Расія, 2015, без узроставых абмежаванняў)
29 кастрычніка – у 14:50
Цана білета: 20 000 рублёў

Прэм'ера! Драма, крымінал, біяграфія **"Чорная імша"** (ЗША, 2015, пасля 16 год)
29 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 45 000 рублёў

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Анімацыя, дзіцячы **"Прыгоды катабоя"** (Расія, 2013, без узроставых абмежаванняў)
17, 18 кастрычніка – у 15:30
10, 11 кастрычніка – у 15:00
Цана білета: 12 000 рублёў

Прыгоды **"Гэта твой дзень"** (Расія, 2013, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
16 кастрычніка – у 17:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Камедыя **"Каханне ад усіх хвароб"** (Францыя, 2014, пасля 16 год)
16, 18 кастрычніка – у 19:00
17 кастрычніка – у 21:30
19 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Меладрама, драма **"Сірэна"** (ЗША, Францыя, Чэхія, 2014, пасля 16 год)
16, 18 кастрычніка – у 21:00
17 кастрычніка – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прыгоды, біяграфія, гісторыя **"Піраты Эгейскага мора"** (Расія, Грэцыя, 2012, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
17 кастрычніка – у 17:30
18 кастрычніка – у 17:00
19 кастрычніка – у 18:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Баявік, камедыя, прыгоды **"Асабліва небяспечная"** (ЗША, 2014, пасля 16 год)
20, 22 кастрычніка – у 19:00
21 кастрычніка – у 21:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Прэм'ера! Драма **"Апошняя ноч"** (Расія, 2015, пасля 18 год)
20, 22 кастрычніка – у 21:00
21 кастрычніка – у 19:00
Цана білета: 35 000 рублёў

Тэл. : **8(0176) 77-15-92, 77-06-30**
**Забраніраваць білет можна праз сеціва на сайце megamag.by.**

# Кінатэатр "Мір", Вілейка

*ЗАЛА ПАВЫШАНАЙ КАМФОРТНАСЦІ*

Трылер **"Небяспечнае апусканне"** (Вялікабрытанія, пасля 16 год).
23 кастрычніка – у 17:30
24, 28, 29 кастрычніка – у 20:00
25 кастрычніка – у 19:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Крымінальны баявік. **"Нястрымны"** (ЗША, пасля 16 год)
23 кастрычніка – у 19:30
24, 28, 29 кастрычніка – у 18:00
25 кастрычніка – у 17:30
Цана білета: 35 000 рублёў

Анімацыя **"Кінадзяцінства: Маша і мядзведзь: Цяжка быць маленькім"** (Расія, без узроставых абмежаванняў)
24, 25 кастрычніка – у 14:00
Цана білета: 12 000 рублёў

*ВЯЛІКАЯ ЗАЛА*

Баявік, трылер **"Мы, браты"** (2D, Беларусь, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
23, 28 кастрычніка – у 16:00
24 кастрычніка – у 16:30
Цана білета: 25 000 рублёў

Фантастыка, прыгоды **"Марсіянін"** (3D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых )
23 кастрычніка – у 18:00
24 кастрычніка – у 21:00
25 кастрычніка – у 16:30
Цана білета: 55 000 рублёў

Трылер, драма **"Прагулка"** (3D, ЗША, да 14 год у суправаджэнні дарослых)
23 кастрычніка – у 20:40
24 кастрычніка – у 18:30
25 кастрычніка – у 21:00
28 кастрычніка – у 20:30
29 кастрычніка – у 18:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыя **"Перапалох у джунглях"** (3D, Паўднёвая Карэя, Мексіка, без узроставых абмежаванняў)
24 кастрычніка – у 13:00
Цана білета: 15 000 рублёў

Сямейны, фэнтэзі, прыгоды **"Пэн: Падарожжа ў Нетландыю"** (3D, ЗША, без узроставых абмежаванняў)
24, 25 кастрычніка – у 14:30
28 кастрычніка – у 14:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыя, камедыя **"Кунг-фу Трусік: Валадар агню"** (3D, Кітай, без узроставых абмежаванняў)
25 кастрычніка – у 12:30
Цана білета: 30 000 рублёў

Драма **"Радзіма"** (Расія, пасля 18 год)
25 кастрычніка – у 18:40
Цана білета: 45 000 рублёў

Фантастыка, баявік **"Бягучы ў лабірынце: Выпрабаванне агнём"** (3D, ЗША, пасля 16 год)
28 кастрычніка – у 18:00
Цана білета: 55 000 рублёў

Анімацыя, фэнтэзі **"Монстры на вакацыях 2"** (3D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
29 кастрычніка – у 14:00
Цана білета: 30 000 рублёў

Анімацыя, прыгоды **"Крэпасць: шчытом і мячом"** (2D, Расія, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
29 кастрычніка – у 16:00
Цана білета: 20 000 рублёў

Баявік, драма крымінал **"Чорная імша"** (2D, ЗША, да 12 год у суправаджэнні дарослых)
29 кастрычніка – у 20:30
Цана білета: 45 000 рублёў
Тэл. **8(01771) 5-68-59**

● ГАРАСКОП 23-29 КАСТРЫЧНІКА



**Авен.** Вам трэба змяніць сябе, змяніць сваё адносіны да свету, бо, змяніўшы светапогляд, вы на ўсё зможаце паглядзець пад іншым вуглом. Гэта пойдзе вам на карысць.



**Цялец.** Для вашага знака складваецца незвычайнае размяшчэнне планет, што можа падарыць вам знаёмства з апекуном ці паклоннікам вашага таленту.



**Блізняты.** Перыяд добры для сустрэч з людзьмі, якія падзяляюць вашы інтарэсы, паходаў у тэатр з дзецьмі.



**Рак.** Лёс сам вядзе вас па шляху, які вядомы толькі яму, а вам трэба смела ісці следам і не супраціўляцца падзеям, якія будуць адбывацца з вамі. Вы шмат працуеце, і гэта не застаецца незаўважаным для лёсавызначальных сітуацый.



**Леў.** Навучыцеся спраўляцца з хваляваннем і пастарайцеся ўвогуле пазбавіцца ад яго. Бо хваляванне адключае нашы мазгі, і вы проста не ўстане вырашыць сітуацыю, якая склалася.



**Дзева.** Паспрабуйце кожны вечар складаць план на наступны дзень – гэта дазволіць паспець многае зрабіць.



**Шалі.** Ва ўласным жыцці займіце актыўную пазіцыю і перастаньце чакаць ля мора пагоды. Бярыце лейцы ў рукі і – наперад.



**Скарпіён.** Добра было б адпачыць удалечыні ад гарадскога шуму і мітусні. Калі вырашылі патраціць грошы на буйныя пакупкі, то не сумнявайцеся, вы будзеце задаволеныя.



**Стралец.** Вы у эпіцэнтры ўнутранай барацьбы: з аднаго боку вам неабходна абмяжоўваць сябе дзеля духоўнага развіцця, а з іншага – матэрыяльныя даброты і людскія радасці будуць вабіць вас з падвоенай сілай. Выбар за вамі.



**Казярог.** Магчымы новы раман, але толькі калі вы шукаеце сур'ёзных адносін. Не выкарыстоўвайце ўдачу ў карысліва мэтах ці ў азартных гульнях – яна можа лёгка вас пакінуць.



**Вадалей.** Ніколі не позна. Позна – гэта толькі апраўданне для таго, каб не спрабаваць. Дабіцца пастаўленай мэты можна ў любым узросце.



**Рыбы.** Рабіце сваю работу на "выдатна". Калі вы хочаце чагосьці дабіцца ў жыцці, вам прыйдзецца папрацаваць. Вядома, ёсць рэдкія выключэнні, але не спадзявайцеся на іх. Спадзявайцеся на сябе.

**Марыя УРБАНОВІЧ.**

ISSN 1991-7155
Рэгіянальная газета. Rh.by
Тэлетыдзень 27

● НАДВОР'Е

## 24 кастрычніка, субота

| | Пятніца | | Субота | | Нядзеля | | Панядзелак | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Мінск | +5 / +8 | | +9 / +10 | | +7 / +9 | | +6 / +9 | |
| | 751 | ↗ 4 | 744 | ↓ 5 | 745 | ← 2 | 740 | → 8 |
| Вільня | +5 / +9 | | +8 / +9 | | +6 / +9 | | +6 / +9 | |
| | 743 | ↗ 5 | 745 | ↘ 5 | 753 | ↑ 3 | 749 | → 7 |

Тэмпература паветра, Воблачнасць, ападкі, Ціск (мм рт. сл.), Хуткасць ветра м/с. Усход, захад па Маладзечне

Усход 7.58
Захад 17.54
Даўжыня дня 9.56

Усход 16.42
Захад 3.20
Квадра 2




● ЭКСТРЭМУМЫ НАДВОР'Я Ў РЭГІЁНЕ

**АШМЯНЫ**

Мінімальная тэмпература -9,6 °C у 2014 годзе
Максімальная тэмпература +16,8 °C у 2006 годзе
Максімальная колькасць ападкаў 7,8 мм у 2002 годзе
Назіранні за 38 год. Паводле meteoinfo.by

● ЭКСПРЭС-АПЫТАННЕ Ў РЭГІЁНЕ

## Якім чынам бацькі могуць дапамагаць школе?



**Вольга Мацюшонак, майстар па прычосках, Маладзечна:**
– Пакуль мая дачка ходзіць у дзіцячы садок. Штомесяц мы аплачваем добраахвотныя ўнёскі на рахунак садка. Таксама бацькі дапамагаюць добраўпарадкаваць тэрыторыю. Кожны дапамагае ў адпаведнасці з бюджэтам. Так і ў школе, усё, што будзе ў нашых сілах, будзем рабіць.



**Ганна Пашкоўская, настаўніца гісторыі, Смаргонь:**
– Канешне, бацькі павінны дапамагаць школе, у якой вучыцца дзіця. Як матэрыяльна, так і актыўна ўдзельнічаць у школьным жыцці.



**Андрэй Фурманенка, грузчык, Маладзечна:**
– Няхай дзяржава дапамагае, або няхай плацяць зарплату, якой хапала б на дапамогу школам з рамонтам. Школа – дзяржаўная ўстанова, вось няхай дзяржава і падтрымлівае школы і дзіцячыя садкі. Іх патрабаванні даходзяць да абсурду.



**Святлана Рамашкіна, дырэктар турагенцтва, Маладзечна:**
– У нашай краіне бясплатная адукацыя, а значыць, і дапамога павінна быць добраахвотнай. Бацькі могуць паклеіць шпалеры альбо пафарбаваць падлогу, калі ёсць магчымасць, то і грошы даць на добраўпарадкаванне.



**Юры Сянкевіч, настаўнік, Маладзечна:**
– Калі бацькі дапамагаць не захочуць – ніхто не прымусіць. На маёй памяці пару такіх выпадкаў было. Праз апякунскую раду вызначаецца сума ўнёскаў. Бутыляваную ваду, мыла, сурвэткі набываюць бацькі. Напрыканцы года дапамагаюць пафарбаваць падлогу.

Падрыхтавала Галіна СІНІЦА.

## Чытайце праз тыдзень:

- Чаму большасць людзей пачынае чытаць газету з крымінальнай старонкі? Якія крымінальныя навіны змяншаюць трывожнасць, а якія наадварот наганяюць страх? Разбіраемся ў наступным нумары.



Рэгіянальная газета. Rh.by
Аб'ём 6 друкарскіх аркушаў фармату А2.
Тыраж 6000 экз. Індэкс 63212 (індывідуальная падпіска), 632122 (ведамасная падпіска).
№43 (1069) 23.10.2015. У розніцу – цана свабодная.
Друкарня УП "Плутас-Маркет", 220137, г. Мінск, вул. Халмагорская, 59а.
Ліцэнзія ЛП №02319 ад 30.04.2004 №93.
Зак. 1349. Падпісана ў друк у 9.00 22.10.2015.
Галоўны рэдактар Аляксандр Барысавіч МАНЦЭВІЧ.

Заснавальнікі: Аляксандр Манцэвіч, Ніна Манцэвіч.
Адрас рэдакцыі: 222310, Маладзечна, Вялікі Гасцінец, 68-а.
Тэлефоны/факс: (0176) 769667, 747100, 753841 (рэклама).
E mail: regionnews@rh.by, reklama@rh.by, http://rh.by
Разліковы рахунак №3012164030004
у ААТ "Банк БелВЭБ" аддзяленне ў Маладзечне, код 226,
атрымальнік ТАА "Рэдакцыя газеты "Рэгіянальная газета",
УНН 600288444, АКПА 06082329.
Пасведчанне №731 ад 12.10.2009 г. Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь.